


# 1999-1899: ста гадоў як не было

Напрыканцы стагодзьдзя, як ніколі раней, адчуваеш магію календара. Паколькі ўсялякае завяршэньне – гэта праекцыя пачатку, за кожным наступствам стаіць вытok, а кожнае следзтва мае сваю прычыну. Адчуваньне непазьбежнасьці гэтага канца і наступнага за ім пачатку, напэўна, мала адрозьніваецца ў нас і ў тых, хто ўступаў у новы 1899 год, нічога ня ведаючы пра наступнае стагодзьдзе. Таго, што адбылося пасьля, яны не маглі сабе ня тое што сасьніць, бо нават сасьніць такое ім было ня дадзена. Як і нам – пра тое, што будзе ў 21 ста-годзьдзі, ня дадзена нават сасьніць. Рацыяналізм нашых уяўленьняў, які прывучыў нас плянаваць на год або дзесяць гадоў наперад, тут раптам адступае. Час замёр, прыпыніўся. Мы нібы пасажыры самалёту, які апускаецца ці, наадварот, набірае вышыню. Ужо не відаць расплянаванае й раскрэсьленае тэрыторыі зямлі. Ужо не відаць фантастычнага й яснага сонечнага далягляду. Мы пагружаемся ў паласу хмараў, і ўсё, што можам пабачыць у гэтай смузе, – гэта кроплі вады на ілюмінатары за шклом.

Калі спрабуеш ахапіць уяўленьнем увесь свой час, сваю краіну і сваю культуру, дык і тут, напэўна, мала чым адрозьніваесься ад папярэднікаў, якія спрабавалі зрабіць тое самае сто гадоў назад. Зусім падобнымі выглядаюць і культурныя сытуацыі – тагачасная і наша. Не глядзіце, што шмат імёнаў гучыць і шмат нібыта ўсяго робіцца. Усё гэта заўтра ператворыцца ў фон, а то і ў тлен. Галоўнае, як і тады, няма культурнай ерархіі, мэтраў і САПРАЎДЫ векапомных падзеяў дзе зьяваў. Усё гэта, як і тады, толькі прадбачыцца.

Уявіце сабе год 1899-ы і вы міжволі перавядзеце позірк на ўласных дзяцей. Максіму Багдановічу спаўняецца восем гадоў, а Максіму Гарэцкаму – 6, Зьмітраку Бядулю – 13, Кандрату Крапіву нагул тры. Купалу і Коласу па 17, але й іхныя біяграфіі пачнуцца толькі ў наступным стагодзьдзі. Зрэшты, узрост тут не паказчык. Узрост напрыканцы стагодзьдзя перастае нешта значыць. Ядвігіну Ш. трыццаць, але й ён стане Ядвігіным Ш. толькі праз некалькі гадоў. Зараз жа, напрыканцы, усё сьцішылася. І ніхто нічога ня робіць, або такім чынам – як нерабленьне – выглядае любая дзейнасьць. Зусім як сёньня. А як жа шмат усяго стане пасьля! Ужо праз сем гадоў пачне выходзіць «Наша Ніва», праз 19 утворыцца БНР, а там – пайшло-паехала. Але пакуль цішыня. Усё гэта толькі будзе. Разаўецца, разбухне, аж пакуль не абваліцца, не прападзе разам з крахам камунізму.

*Працяг на старонцы 8*

**Сталыя чытачы «Нашай Нівы» ведаюць, што ў 99-м годзе, як і раней, мы будзем ня столькі інфармаваць пра падзеі, колькі ўслухоўвацца ў іхную сутнасьць і ўглядацца ў жывыя праявы маладога беларускага грамадзтва.**

**Сталыя прыхільнікі «НН» ведаюць, што ў 99-м годзе са старонак газэты яны даведаюцца пра самыя істотныя зьявы постсавецкай і сусьветнай культуры, пра жывы беларускі літаратурны працэсу.**

**Сталыя чытачы «НН» ведаюць, што разам з намі ім лягчэй будзе сьцьвярджаць свае прынцыпы і пераканаўньні перад ня надта прыхільнае публікі. Нагадваем, 2 лютага — Дзень без чужога слова, і мы чакаем вашых лістоў.**

**Сталыя чытачы гэта ведаюць і таму выпісваюць «НН», а гэта значыць, што газэта будзе выходзіць і дапамагаць сваім прыхільнікам.**

**З новым годам.**

*Рэдакцыя «Нашай Нівы»*

# НА ПРАТОКАХ

**Сяргей Паўлоўскі**

На перавале гадоў звычайна падводзяць вынікі й робяць прагнозы. Як гэта проста было за савецкім часам – рабіць рэалістычныя прагнозы! Малодшая дачка пойдзе ў школу, старэйшы сын – у войска, суседка народзіць, а дзядуля з бабуляй паедуць улетку на мора адпачываць. Не паддаваліся прагназаваньню толькі прыемныя й непрыемныя выпадковасьці (узнагарода знайшла героя, напрыклад, альбо пляменьнік заляцеў у міліцыю), а таксама сьмерць. Усё астатняе ў малым і вялікім можна было ня тое што прадбачыць, але непахісна плянаваць. Народ існаваў ад сьвята да сьвята і ад зарплаты да зарплаты, у год партыйнага зьезду ў жалезным парадку адбываўся партыйны зьезд. Сусьветныя канфлікты або стыхійныя бедзтвы, роўна як і пастановы КПСС, не прадугледжваліся народам, бо не ўваходзілі ў ягоную кампэтэнцыю. Гэта было справай і клопатам начальства. На фоне стабільнай вечнасьці людзі плянавалі спаконвечныя падзеі асабістага жыцьця. Упэўненасьць у заўтрашнім дні была трывалая, як скала. Гэта пазьней, пасьля дзяцінства і юнацтва мы даведаліся, што жывем у несвабодзе і хлусьні. Зрэшты, большасьць, верагодна, пра гэта й не даведаецца ніколі. Дрыгвістая цяперашчына прымушае іх абяртацца на тыя стабільныя бесклапотныя дні з зайздрасьцю й надзеяй.

Пра ўсё гэта варта сказаць ужо хоць бы дзеля кантрасту з тымі днямі дзён сёньняшніх. Вынікі мінулага году? Якія там вынікі! Адно расчараваньне і боязь сурочыць, каб не было яшчэ горш. Прагнозы на год наступны? Ніякіх рэалістычных прагнозаў, суцэльныя антанімічныя пары. Будуць выбары – ня будуць выбары, страцім незалежнасьць – ня страцім незалежнасьць, вернецца Пазьняк – ня вернецца Пазьняк... Можа быць гэтак, а можа быць і так. Ніхто ня скажа нічога пэўнага, бо ў грамадзтве або адсутнічаюць, або не праглядаюцца тэндэнцыі. Таму запаноўвае містыка й ейныя вытлумачэньні. Настрадамусавы радкі пра ліпень 1999-га, калі мусіць прыйсьці нейкі там кароль жаху, кожны тлумачыць па-рознаму, часам дыямэтральна супрацьлегла – ці то пэсы-містычна, ці то аптымістычна.

Рэалістычны прагноз можна зрабіць толькі на падставе тэндэнцыяў. А апошніх не відаць. Магчыма, таму, што яшчэ не сфармавалася яно, незалежнае беларускае грамадзтва. Таму, што ўсё яшчэ адбываецца папярэдні працэс – распад грамадзтва савецкага. Тэндэнцыю гэтага распаду, натуральна, можна прагназаваць і далей, але такі прагноз мае на завяршэньні сваім усё той жа містычны апа-каліпсіс.

Памятаецца, яшчэ два-тры гады таму ў падобных гутарках прысутнічала спадзяваньне на цуд, на выпадковае здарэньне або на героя, які пераможа цмока і прынясе народу палёгку. А сёньня й пра гэта ніхто не гаворыць. Вось у калгасе зь лістапада пачалі карміць жывёлу сіласам. Звычайна гэта пачынаюць рабіць увесну. Страшнавата робіцца, калі селянін усьміхаецца так вось вусьцішна й роспачна. З аднаго боку, яму жахліва ўсьведамляць, што з-за нечага глупства статак без пары пойдзе пад нож, зь іншага – ад яго, селяніна, абсалютна нічога не залежыць, а старшыню, гэтаму сатрапу й самадуру, першаму ўсё да лямпачкі. Зрэшты, сустракаецца і старшыня разгублены і дэзарыентаваны ў сёньняшніх уладных раскладках, які ня ведае, на што ставіць і за што хапацца найперш. Вэртыкаль робіць толькі тое, што захоўвае й мацуе ейную ўладу. А галоднаму кароўскаму мору заўсёды знойдзецца пераканаўчае папулісцкае тлумачэньне. Масавы падзёж жывёлы тут нават, можа быць, і выгадней за прырост і надоі. Калі, скажам, зноў спатрэбіцца паказаць народу на каварства захаду або патрэбу аб'яднаньня з Расеяй. Ідзі разьбярыся. Калгасны старшыня разумее, што прычыны развалу ў ягонай гаспадарцы хаваюцца недзе ў высокіх матэрыях дзяржаўнай палітыкі, а значыць, не ў ягонай кампэтэнцыі. Якія ўжо тут прагнозы.

Апазыцыянэры перастаюць прарочыць падзеньне Лукашэнкі, бо падзеньне тое робіцца адчувальным, і раптам пачынаеш уяўляць сабе, хто і што прыйдзе пасьля. За апошнія гады ніхто з канкурэнтаў не набраў вагі. Усе або слабыя, або лянівыя, або перасвараныя міжсобку. А ў глыбіні душы, здаецца, кожны з прэтэндэнтаў на першае месца ў краіне падумвае пра сваю прэтэнзію з роспачу – а што як заўтра занясе хваля на пасад. І? Шчыра кажучы, ня ведаю, кім трэба быць, каб сёньня сабе такога пажадаць. Тут, у будынку, дзе ня толькі сьцены ходырам ходзяць, але й падлога, і столь. Паспрабуй, запыні...

Невясёлыя выходзяць думкі з такімі прагнозамі, а іншыя не атрымліваюцца. Ані стабільнага сямейнага пляну не складзеш, ані цуд не прадбачыцца, а калі й прадбачыцца, дык не выклікае даверу. З кім ні даводзілася мне пагаварыць пра гэта, усе адмаўляюцца прагназаваць. Ня будзем, маўляў, пра сумнае. Пра будучыню лепш не гаварыць.

Усё сказанае – плён вычуваньняў, якія напаткаліся аўтару ў беларускіх гарадах ды вёсках. Непрагназаваная краіна з такой самай гаспадаркай, зь непрагназаванай уладай і такім самым народам.

У мінулым нумары «НН» я завёў гутарку пра патрэбу катарсісу. Сапраўды, беларусам няма як яднацца ў агульным комплексе віны, што іншым народам часам дужа дапамагае, як скажам, немцам. Не аб'ядноўвае нас і комплекс ахвяры або богаабранасьці. Адзіная характарыстыка, агульная для беларусаў, якая, тым не менш, іх ня лучыць, а часцей разьядноўвае – гэта некрытычнасьць у дачыненьні да сябе. Магчыма, яна й робіць нашых людзей такімі бездапаможнымі перад абліччам крызысу і перад абліччам будучыні. Савецкі стандарт жыцьця з усёй яго безадказнасьцю чалавека за сябе й свае ўчынкі – вось да чаго сёньня заклікае беларусаў начальства. Але калі ўчора начальства яшчэ адказвала за гэты паняволены народ, дык сёньня яго, начальства, самога нясе на хвалі няўцямнай харызмы ў невядомым накірунку. І паняволены народ аказваецца яшчэ й перад абліччам усіх стыхіяў, як тыя гарадзенскія прадпрымальнікі на маскоўскай шашы.

*Працяг на старонцы 2*

*Мілыя-мілыя нашаніўцы, а таксама ўсе, хто спрычыніўся да «ARCHE»,*

*прыміце мае самыя шчырыя віншаваньні з навагоднімі сьвятамі.*

*Жадаю, каб кожнага году на сьвяточных торціках вашых выданьняў запальвалася яшчэ па адной сьвечцы і гучала прасьпяванае з добрым оксфардзкім акцэнтам «Happy Birthday To You!» І каб гэта працягвалася бясконца, з году ў год.*

*А яшчэ «трэба быць гатовым да ўсяго! Вось чаму ў майго каня на нагах бранзалеты. – А гэта навошта? – пацікавілася Аліса. –Каб акулы не ўкусілі, – адказаў Белы Рыцар».*

*Трымайцеся, калі ласачка, з усяе сілы, ды хай вам шчасьціць і ўсім разам, і кожнаму паасобку.*

*Сьнегападу вам таксама – па-беларуску.*

Ліда Куратава,
Дружны Менскай вобл.

*Паважаны спадар Рэдактар!*

*Напярэдадні Новага году хацеў бы выказаць свае пажаданьні, меркаваньні, прапановы і ідэі з мэтай узбагачэньня і ўдасканаленьня «Нашай Нівы». Адразу прашу прабачэньня, калі нешта будзе наіўным і непрафэсійным. Усё ад шчырага сэрца.*

*Першае, нашаму грамадзтву патрэбны Рэдактар. Асоба, якая будзе падтрымліваць агеньчык сярод цемры, чужых вятроў, варожых уплываў. Рэдактар, які знойдзе тых рэдкіх людзей, у якіх маецца талент ці проста здольнасьць займацца стварэньнем.*

*Рэдактар упэўнены, непахісны, нават фанатычны, Рэдактар як Лёс. Як шчасьлівая выпадковасьць для тых, хто можа удзельнічаць у стварэньні будучыні.*

*Рэдактар, які возьме здольнага чалавека – патрыёта і запатрабуе: дай артыкул, аповед, перарабі, перапішы, папрацуй, папацей, закрэсьлі і напішы зноў.*

*Сёньня самая важная наша задача – стварыць сваю знакавую сыстэму, агучыць і зацьвердзіць тыя сыгналы паняцьцяў, значэньняў, якія вызначаюць сапраўдную існасьць жыцьця.*

*Калі ня будзе знакавай сыстэмы – звычайны просты чалавек, дый нават інтэлігент, у лепшым выпадку, зразумее маленькую праўду, дробную ісьціну, але ня створыць сыстэмны сьветапогляд. Звычайны, сярэдні чалавек усё роўна будзе існаваць у той сыстэме, якую сёньня ствараюць «яны» – прадажныя буржуа.*

*1. Інтэрвію. Хаця б раз на месяц – у вядомых палітыкаў, грамадзкіх дзеячоў, вядомых людзей: Шушкевіч, Бразаўскас, Краўчук, Гарбачоў, Якаўлеў, Яўлінскі, Пазьняк, Хадыка, Чыгір, Заматалін, Лужкоў, Лукашэнка, Сакрат Яновіч, Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, Салжаніцын і г.д.*

*Дзесяць пытаньняў кожнаму пра мінулае, пра сучаснасьць, пра будучыню. Пра свабоду, пра незалежнасьць («Умацуе Расею зьнішчэньне незалежнасьці Беларусі ці, наадварот, аслабіць?» «Што Расеі больш патрэбна: саюзьнікі ці тэрыторыі?»)*

*Няхай ня ўсе дадуць гэтае інтэрвію, але тым горш для гэтых людзей.*

*2. Падводзіць вынікі за год. Лепшы артыкул, лепшы аповед, лепшы верш, лепшы дэбют. Гэта так неабходна маладым талентам. (Ляўрэат газэты «Наша Ніва» за 1998 год – за лепшы публі-цыстычны твор ці лепшы аповед). Неабходнае «рэха» для нашых талентаў.*

*3. Зьвярнуцца да чытачоў з просьбай шукаць словы. Сёньня я пакутую ад таго, што не магу знайсьці замену словам «пагон», «лямпасы», «экран», «камфортны», «відэакасэта», «мундзір», «кнопка», «браніраваны». Мяне замучыла слова «кастрюля» – я не магу знайсьці яму адпаведнае беларускае слова.*

*4. Друкаваць урыўкі дакумэнтальных кніжак аб гісторыі Другой сусьветнай вайны: пра жыцьцё Аляксандра Бэрга (цікава аб лэнд-лізу, пра Сталінградзкую бітву, пра Сталіна). Ці ўспаміны маршала Галанава – таксама цікава пра вайну, пра Сталіна.*

*5. У той жа час можна было б паспрабаваць зазірнуць у бліжэйшую будучыню: «Успаміны змагара» (пра барацьбу Вызвольнага Руху супраць расейскай акупацыі 1999-2005 гадоў).*

*6. Зразумела, што рана ці позна «Наша Ніва» будзе забароненая, альбо яны пастараюцца паставіць у «НН» сваіх людзей. Сёньня газэта – адзінае небясьпечнае для рэжыму і Расейскай імпэрыі выданьне. Таму трэба было б рыхтаваць выданьне за межамі краіны, лепш за ўсё ў Вільні. У Беластоку было б таксама вельмі добра, але думаю, што там занадта шмат агентаў ФСБ і КГБ.*

*7. Сапраўдная барацьба толькі пачынаецца.*

*З Новым годам паважанае спадарства!*

К.Травень,
Менск

*Пра вечнае жыцьцё**

*Навошта нам жыць вечна? Адказваючы на гэта, многія ўдзельнікі апытаньня сыходзілі з таго, што вечнасьць прыўнясе ў наша будзённае жыцьцё элемэнт той самай «апатыі», ператорыць чалавека ў расьліну. Маўляў, асоба, якая будзе існаваць заўжды, губляе сэнс жыцьця. Аднак ня ўсё так відавочна... Я памятаю ў пяці-сямігадовым веку: для мяне не йснаваў такі*

# НА ПРАТОКАХ

Працяг са старонкі 1

А можа нам пачаць сьмяяцца з сваёй бездапаможнасьці і паняволенасьці? Саркастычна высьмейваць тую працавітасьць, гасьціннасьць і сьціпласьць, над якімі мы выплакалі ўжо не адну самазамілаваную сьлязу. Толькі вось ці знойдзецца сатырык? Гэтае пытаньне тоеснае іншаму – ці знойдуцца ў народзе на такое сілы? А гэта ў сваю чаргу будзе сьведчыць пра сілу мець сваю будучыню – з тэндэнцыямі й прагнозам.

Ёсьць, праўда, у Беларусі адна сфэра, у якой праглядаюцца тэндэнцыі й магчымыя прагнозы. Я хацеў назваць яе сфэраю культуры, але гэта не зусім тое, што ў нас шырока разумеюць пад сфэрай культуры, якую ўзначальвае адпаведны міністар. Я маю на ўвазе нацыянальнае культурнае адраджэньне. Тут згаданыя антанімічныя пары выглядаюць ня так фатальна і проціле́гла.

Наступнай восеньню Васіль Быкаў можа атрымаць Нобэлеўскую прэмію, а можа й не атрымаць. Затое зусім пэўна вядома, што ажно некалькі недзяржаўных выдавецтваў плянуюць выпусьціць новую кнігу празаіка. У 96-м і ў папярэднія гады пісьменьнік застаўся бяз кнігі. У 97-м незалежнае выдавецтва «Наша Ніва» выпусьціла «Сьцяну», забароненую у дзяржаўным выдавецтве «Мастацкая літаратура», сёлета зьявіўся другі наклад гэтай кнігі. У 99-м пачнецца канкурэнцыя паміж незалежнымі выдавецтвамі за тое, хто першы выдасьць «Ваўчыную яму». Як бачым, тут ёсьць вельмі выразная тэндэнцыя і прагноз роўны рэальным плянам. Бязь містыкі й шаноўнага Настрадамуса.



І каб завершыць гэты абразок, згадаю, што незалежная «Сьцяна» мела попыт у чытачоў і хутка прадалася, рэзка вырас і попыт на тыя нумары «Нашай Нівы», у якіх друкавалася «Ваўчыная яма». Гэта значыць, што ня толькі культурнікі нешта сабе плянуюць, але ёсьць чаканьне і з боку грамадзтва. Чакаюць Быкава.

Такім чынам я распачаў пазытыўную частку свайго тэксту – пра тэндэнцыі й прагнозы на новы год, якія не праглядаюцца ў палітыцы й гаспадарцы, затое якія відаць у нацыянальна-культурным адраджэньні.

Бард Зьміцер Бартосік, які ці не штотыдзень выступае з канцэртамі ў розных кутках Беларусі, не перастае зьдзіўляцца – маўляў, ён і ня думаў, што ў нас столькі беларускамоўнай моладзі, якой гэта ўсё трэба. Ая, моладзі, сапраўды столькі й не было ані тры, ані пяць, ані дваццаць гадоў назад. Яна ўвесь час аднекуль бярэцца, выхаваная беларускім рок-н-ролам, незалежнай прэсай і маладзёжнымі тусоўкамі. Вось такое пэўнае. Бо альтэрнатывы няма. Лукамол выглядае нечалавечна і непрываблна нават для палітычна індыфэрэнтнага юнака, бо гэта прост зьлепак з правобраза – прэзыдэнта. Таму юныя выбіраюць беларушчыну. Хутка яны проста колькасна пераважаць у адраджэнскім асяродку людзей бальшавіцкага складу зь яшчэ савецкай мэнтальнасьцю. Гэта таксама тэндэнцыя і прагноз, калі не на наступны менавіта год, дык на два-тры гады наперад.

На здымку ў бюлютэні «Дыджэй адраджэньня» маладафронтаўцы літаральна паказваюць сваім рускамоўным раўналеткам «язык, на котором надо разговаривать». Для старых адраджэнскіх апаратчыкаў, якіх хапае адно на тое, каб зводзіць ідэю грамадзянства БНР да статыстычнага партыйнага членства, наўрад ці будзе зразумелае такое жывое сваволства. Тыя, хто прыйшоў у БНФ з камуністычным намэнклятурным заплечам, так і не перарасьлі ўласных звычак да субардынацыйнае гульні і раздвоенасьці душаў. «На чорта мне іхнае грамадзянства», – сказаў мне неяк знаёмы дзядзька-нацыяналіст, які даведаўся, што «паперку пра грамадзянства БНР» яму выпішуць ва ўправе БНФ, і махнуў рукой.

Між іншым, Дзень без чужога слова, які стаў праводзіцца ў Беларусі штодругі дзень месяца летась у лістападзе, быў не ў апошнюю чаргу зьвернуты менавіта да сёньняшніх праваднікоў народа на апазыцыйных пасадах. Каб хоць на людзях і ў сем'ях гаварылі па-беларуску. Але якраз яны гэтую ініцыятыву й не падтрымалі. Падтрымала моладзь...

Выхад летась першага нумару літаратурнага часопіса «Архэ» нагадаў мне зьяўленьне ў 91-м адноўленае «Нашай Нівы». Агульнасьць менавіта ў навіне і ў прагненьні сьвежага паветра. А яшчэ ў тым, што многія аўтары «Архе» пачыналі менавіта на старонках «Нашай Нівы». Адрозьненьне ж у тым, што газэта была падрыхтаваная літаратарамі і суполкамі яшчэ 80-х, данезалежніцкіх гадоў. А часопіс стаў плёнам працы пакаленьня 90-х, дзеля завершанасьці параўнаньня напрошваецца –пасьлянезалежніцкіх гадоў. І гэта тая тэндэнцыя, якая выявіцца сёлета. Прыблізна штопяць гадоў або нават штотры гады ў нашай літаратуры заяўляліся спробы абнаўленьня. Аднак новыя заставаліся ў межах ранейшых напрацовак і вобразаў. Так здарылася спачатку з абноўленым часопісам «Крыніца», потым з часопісам «Фрагмэнты», урэшце з Бумбамлітам. Магчыма таму, што натуральны пэрыяд абнаўленьня аказаўся большым – дзесяць гадоў. Менавіта столькі трэба, каб побач з руінамі Саюзу пісьменьнікаў узьнікаў, скажам так, новы незфэмэрны будынак, узьведзены новымі людзьмі.

Зыходзячы з рэальных тэндэнцыяў, можна прагназаваць ня толькі канкрэтныя зьявы, але й самі тэндэнцыі – ці будуць яны разьвівацца, ці будуць заміраць. Напрыклад, новыя беларускія старонкі ў Інтэрнэце цяпер зьяўляюцца па дзьве-тры ў месяц. Верагодна, да канца гэтага году яны будуць стабільна ўзьнікаць па некалькі ў тыдзень. Яшчэ год таму тэмпы тут шмат залежалі ад фундатараў – ад заходніх гуманітарных фондаў, а ўжо сёньня зьявілася шмат незалежных або, скажам так, бясплатных ініцыятараў. Верагодна, сёлета беларускі Інтэрнэт першы ўстане на свае беларускія ногі. Першы сярод іншых нацыянальна-культурных ініцыятываў.

Ходзяць такія чуткі, што ў новым годзе заходнія грантадаўцы могуць спыніць дапамогу беларускай дэмакратыі. Пры заплянаваным далучэньні да Расеі гэта адбудзецца напэўна. На маю думку, гэта вельмі добрыя чуткі, якія прымушаюць думаць пра самавыжываньне. Здаровая беларуская культура мусіць урэшце існаваць за беларускія грошы. Падтрымка грантадаўцаў ніколі ня будзе лішняй, але яна ня можа быць падставовай, самай апошняй.

*фэномэн як абмежаваньне часам. Сьвята верачы ў тое, што калі й ня ўсе людзі, дык прынамсі я буду йснаваць ЗАЎЖДЫ, я ня ведаў нецікавых рэчаў, я хацеў ведаць усё і мне ўвесь час не ставала часу на гульні, бо заўтра трэба было вяртаць у бібліятэку чарговую кнігу, выдадзеную таварыствам «Веды». Упэўнены, што тое самае можа распавесьці пра сябе кожны чытач. Але... Праходзіць час і ўсё зьмяняецца. Мы асэнсоўваем, што такое «dead-line», мы, як у той задачцы па лёгіцы, пачынаем ВЫБІРАЦЬ паміж рознымі варыянтамі, паміж большай ці меншай выгадай. Мы пачынаем глядзець на гэтае жыцьцё з гледзішча ПОСЬПЕХУ – кар'еры... Нас перастаюць цікавіць Веды, нас цікавяць – Навукі. Мы перастаем быць людзьмі і ператвараемся ў Home-guided Missiles, адзіная мэта йснаваньня якіх –патрапіць сабою ў нейкую Цэль. Асобныя з нас успрымаюць гэтую мэтафару літаральна і пачынаюць хадзіць па трупах, верачы толькі ў адну ісьціну – Winner Takes It All. Я не кажу, што вечнае жыцьцё ператварыла б чалавечую цывілізацыю ў Плятонава царства філёзафаў, але яно магло б зьмяніць чалавечую натуру ў лепшы бок. Ці хочаце вы жыць вечна?.. Так, я хацеў бы жыць вечна.*

**Яўген Матусевіч**

**22 нумар «НН» летась (23 лістапада) быў прысьвечаны гэтай тэме.*

Зразумела, у нас крызыс, зразумела, што задушаныя беларускія прадпрымальнікі. І тым ня менш. Само беларускае грамадзтва будзе патроху прывыкаць утрымліваць тую культуру, спажыўцом якой яно зьяўляецца, гэта значыць купляць адраджэнскую прадукцыю за рэальны кошт. І гэта яшчэ адна тэндэнцыя, якая раскрыецца сёлета. А што да падтрымкі з боку беларускага бізнэсу, дык і яна патроху выяўляецца, найперш на правінцыі. Хто скажа, што ў нашай краіне няма багатых людзей, або што ўсе багатыя людзі ў нас падзяляюць антыбеларускую палітыку ўладаў?

Ня ведаю, наколькі задаволіць вас мой прагноз, але ён рэальны і ня мае дачыненьня да містыкі. Што б ні здарылася з нашай краінай сёлета, а здарыцца зь ёй можа ўсё, што заўгодна, прагназаваць і рэальна назапашваць каштоўнасьці мы можам толькі ў сфэры нацыянальна-культурнага адраджэньня. Выдаваць газэты, часопісы й кнігі, запісваць касэты й здымаць фільмы, ствараць інтэрнэтаўскія старонкі, праводзіць фэсты й сьвяты, гаварыць паўсюль і з годнасьцю па-беларуску, выхоўваць дзяцей, пераконваць сваяка, суседа і сябра, падтрымліваць адзінадумцаў, сьпяваць свае песьні, – вось і ўсё, што можа сёньня беларускае грамадзтва. Гэта значыць – ствараць сябе, сваю прагназаваную будучыню. Вы скажаце – чэргі, кошты, заробкі, кепская ўлада... Гэта тыя праблемы, зь якімі ва ўсіх краінах і ва ўсе часы давала сабе рады менавіта грамадзтва і якія ніколі не мог пераадолець разьяднаны, напалоханы натоўп.

# «НАША НІВА» АДВАЯВАЛА ПРАВА ВЫДАВАЦЦА КЛЯСЫЧНЫМ ПРАВАПІСАМ

«Загадваю: спагнаць зь Дзяржаўнага камітэту Рэспублікі Беларусь па друку на карысьць рэдакцыі газэты «Наша Ніва» 2500000 (два мільёны пяцьсот тысячаў) рублёў выдаткаў па дзяржпошліне...»

Так напісана ў загадзе Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь «Аб прымусовым выкананьні рашэньня» ад 22 сьнежня 1998 году па іску рэдакцыі беларускай газэты «Наша Ніва» да адказчыка, Дзяржкамітэту па друку, аб прызнаньні нядзейным папярэджаньня ад 29 траўня 1998 г. №26.

Гэта значыць, што Вышэйшы гаспадарчы суд у выніку працяглай судовай працэдуры прызнаў прэтэнзіі да газэты «Наша Ніва» з боку Дзяржкамітэту па друку беспадстаўнымі.

## ГІСТОРЫЯ ПЫТАНЬНЯ

Нагадаю, што 29 траўня 1998 году Дзяржкамітэт па друку Рэспублікі Беларусь вынес на адрас газэты «Наша Ніва» пісьмовае папярэджаньне аб парушэньні Закона «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі». Падставай папярэджаньня стала нібыта «скажэньне агульнапрынятых норм выкарыстоўваемай мовы» (ч.2 арт.6 Закона). Фактычна газэта была «абвінавачаная» ў тым, што карысталася арфаграфічнымі правіламі, якія йснавалі ў беларускай мове ў 20-х гадах XX ст. (так званая «тарашкевіца»). Гэтыя правілы былі скасаваныя праз «сталінскую рэформу» правапісу – пастановай СНК БССР ад 26 жніўня 1933 году «Аб зьменах і спрашчэньні беларускага правапісу».

Рэдакцыя газэты не пагадзілася з гэтым папярэджаньнем і зьвярнулася зь іскавай заявай у Вышэйшы гаспадарчы суд (такі парадак прадугледжвае дзейнае заканадаўства ў дачыненьні да скаргаў на рашэньні рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіраваньня. – Аўт.) аб прызнаньні несапраўдным і скасаваньні вынесенага папярэджаньня.

## СУДОВЫЯ ПЭРЫПЭТЫІ

Першае паседжаньне суда адбылося 12 жніўня 1998 году. Прадстаўнік істца Сяргей Дубавец, галоўны рэдактар газэты, і Міхаіл Пастухоў, член Беларускай асацыяцыі журналістаў, адразу ж паставілі пад сумнеў аб'ектыўнасьць і абгрунтаванасьць заключэньня члена-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук А.Жураўскага, падрыхтаванага на запыт Дзяржкамітэту па друку. Менавіта на падставе гэтага заключэньня было пазьней вынесенае папярэджаньне газэце. Прадстаўнікі істца запатрабавалі прызначыць камісійную экспэртызу зь ліку аўтарытэтных і незалежных спэцыялістаў у галіне беларускай мовы.

Судзьдзя І.Петухова пагадзілася з гэтай прапановай і адклала на два дні паседжаньне дзеля таго, каб бакі маглі прапанаваць свае пытаньні для экспэртызы і магчымыя экспэртныя ўстановы (кандыдатуры экспэртаў).

14 жніўня суд, выслухаўшы прадстаўнікоў бакоў, прызначыў філялягічную экспэртызу. Яе правядзеньне было даручанае Інстытуту мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. На патрабаваньне Сяргея Дубаўца ў склад экспэртнай камісіі суд уключыў «незалежных» спэцыялістаў: прафэсара катэдры тэарэтычнага і славянскага мовазнаўства БДУ, доктара філялягічных навук Б.Плотнікава; загадчыка катэдры беларускага мовазнаўства Гарадзенскага дзяржунівэрсытэту імя Янкі Купалы, доктара філялягічных навук, прафэсара П.Сьцяцко; загадчыка катэдры беларускага мовазнаўства БДПУ, кандыдата філялягічных навук, дацэнта П.Міхайлава; старшыню Арфаграфічнай камісіі Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны, доктара філялягічных навук, прафэсара Г.Цыхуна.

На разгляд экспэртнай камісіі суд паставіў наступныя пытаньні: 1) вызначыць паняцьці «агульнапрынятыя нормы мовы», у тым ліку беларускай мовы; 2) якія прававыя і (альбо) філялягічныя крыніцы вызначаюць паняцьце «агульнапрынятыя нормы беларускай мовы»; 3) ці зьяўляецца выкарыстаньне правапісу, які існаваў у Беларусі да 1933 году, «скажэньнем агульнапрынятых норм выкарыстоўваемай мовы»?

Адначасна судзьдзя зьвярнулася з запытам у Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь аб неабходнасьці тлумачэньня выразу «агульнапрынятыя нормы выкарыстоўваемай мовы», які ўжываецца ў новай рэдакцыі артыкула 6 Закона аб друку і якое зьявілася прававой падставай для вынясеньня газэце папярэджаньня.

У зьвязку з прызначэньнем экспэртызы судовы працэс па справе быў прыпынены. Ён аднавіўся толькі 14 сьнежня 1998 году. Прадметам судовага разгляду стала заключэньне экспэртнай камісіі. Супрацоўнікі Інстытуту мовазнаўства, за выняткам члена-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук, доктара філялягічных навук, прафэсара А.Булыкі, выказалі адну агульную пазыцыю. Экспэрты ж, прадстаўленыя істцом, выклалі па пастаўленых пытаньнях асобныя меркаваньні.

Адзінымі экспэрты былі толькі ў тым, што ў сучаснай філялягічнай літаратуры паняцьце «агульнапрынятыя нормы мовы» не выкарыстоўваецца. Адсутнічае гэтае паняцьце і ў прававой літаратуры. На меркаваньне экспэртаў, ня маецца практычнай магчымасьці вызначыць названае паняцьце.

Па трэцім пытаньні спэцыялісты Інстытуту мовазнаўства прыйшлі да высновы, што выкарыстаньне правапісу, які існаваў у Беларускай ССР да 1933 году, зьяўляецца парушэньнем сучасных правілаў правапісу беларускай мовы. Яны выказалі меркаваньне, што абавязковымі для выкарыстаньня трэба лічыць нормы правапісу, замацаваныя ў падручніку «Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (Менск, 1959). У той жа час «незалежныя» экспэрты ня ўгледзелі ў правілах арфаграфіі, якімі карыстаецца рэдакцыя газэты «Наша Ніва», якіх-небудзь адхіленьняў ад агульнапрынятых нормаў беларускай мовы. Так, прафэсар Г.Цыхун лічыць, што ў сучаснай беларускай мове ўвогуле няма адзіных агульнапрынятых нормаў правапісу. Яны існавалі якраз да 1933 году і былі замацаваныя ў вядомай кнізе Браніслава Тарашкевіча «Беларуская граматыка для школ». «Рэформа правапісу», у аснове якой ляжалі палітычныя матывы, разбурыла адзінства беларускага правапісу. На меркаваньне прафэсара Б.Плотнікава, зацьверджаныя ў 1933 годзе нормы нельга прызнаць агульнапрынятымі, паколькі амаль палова беларусаў пражывала ў той час за межамі савецкай часткі краіны (як вядома, Заходняя Беларусь з насельніцтвам у 4 млн. жыхароў была далучаная да СССР толькі ў 1939 годзе). Прафэсар П.Сьцяцко таксама мяркуе, што нормы беларускай мовы, замацаваныя ў 1933 годзе, лічыць агульнапрынятымі нельга, таму што яны «ўзаконеныя» насуперак рэкамэндацыям Акадэмічнай навуковай канфэрэнцыі 1926 году і зьяўляюцца актам палітычнага ўмяшальніцтва ў моўную палітыку. Экспэрт П.Міхайлаў заявіў, што ён падтрымлівае меркаваньні, якія выказалі А.Булыка, Г.Цыхун і Б.Плотнікаў.

З Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь суду паведамілі, што яны не гатовыя даць тлумачэньне выразу з артыкула 6 Закона аб друку – «агульнапрынятыя нормы выкарыстоўваемай мовы».

Прадстаўнікі бакоў, абмеркаваўшы заключэньне экспэртнай камісіі і задаўшы ўдакладняльныя пытаньні намесьніку дырэктара Інстытуту мовазнаўства, кандыдату філялягічных навук А.Лукашанцу, засталіся на сваіх папярэдніх пазыцыях.

Суд зрабіў перапынак для падрыхтоўкі рашэньня па справе. 22 сьнежня 1998 году рашэньне было абвешчанае на карысьць істца –рэдакцыі газэты «Наша Ніва».

## ВЫНІКОВЫЯ АЦЭНКІ

У якасьці асноўных доказаў свайго рашэньня суд назваў неадэкватнасьць зьместу новай часткі артыкула 6 Закона – «не дапускаецца скажэньне агульнапрынятых норм выкарыстоўваемай мовы» – паняцьцям, якія выкарыстоўваюцца ў філялягічных крыніцах («норма (літаратурнай) мовы», «моўная норма», «норма моўная»), а таксама неадпаведнасьць гэтай часткі ўказаньням нарматыўных актаў Рэспублікі Беларусь у частцы абавязковасьці ўжываньня правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі.

Тым самым суд прызнаў некарэктнасьць фармулёўкі часткі 2 артыкула 6, якую можна трактаваць на любы густ. Распрацоўнікі паправак да Закону аб друку ўжылі такі выраз, які ніхто з спэцыялістаў ня змог растлумачыць. Не спасьцігнуўшы сутнасьці прававой нормы, суд вымушаны быў прызнаць неабгрунтаванасьць прэтэнзіяў да газэты.

Вядома, акрамя прававых нюансаў, у гэтай справе можна ўгледзець і палітычны падтэкст, а менавіта тое, што Дзяржкамітэт па друку неаб'ектыўна ставіцца да газэты, якая дае сабе волю карыстацца правіламі клясычнай беларускай мовы і гэтым уносіць разлад у сучасную беларускую мову. Папярэджаньне газэце за адхіленьне ад усталяваных нормаў правапісу можна расцаніць і як недапушчальную форму дзяржаўнага ўмяшальніцтва ў моўную сфэру, якая складае сьвятая сьвятых кожнай нацыі. Як юрыст зь вялікім стажам і як удзельнік судовага працэсу, лічу, што норма Закона аб друку аб «недапушчальнасьці скажэньня агульнапрынятых норм выкарыстоўваемай мовы» супярэчыць агульнапрынятым нормам міжнароднага права ў галіне свабоды інфармацыі, і ў прыватнасьці, артыкулу 19 Міжнароднага права аб грамадзянскіх і палітычных правах, артыкулу 34 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь аб праве грамадзян на вольнае атрыманьне і распаўсюджваньне інфармацыі, а таксама артыкулу 23 Канстытуцыі, які не дапускае абмежаваньня правоў і свабодаў грамадзян. Гэтае «новаўвядзеньне» ніяк ня ўпісваецца ў сыстэму заканадаўства аб друку і ёсьць грубым парушэньнем свабоды слова і інфармацыі.

Акрамя таго, указаная фармулёўка, якая прэтэндуе на ролю нормы права, не тлумачыцца ніякімі прававымі і філялягічнымі крыніцамі. Яна не адпавядае прававым парамэтрам, бо выказвае нешта адцягненае і надта агульнае. Скарыстаньне такой фармулёўкі ў практыцы непазьбежна прывядзе да самавольства органаў дзяржаўнага кіраваньня і судоў (у чым мы мелі магчымасьць пераканацца на прыкладзе папярэджаньня газэце «Наша Ніва» – Аўт.). Я мяркую, што неабходна як мага хутчэй адмяніць гэтую неакрэсьленую і небясьпечную норму Закона аб друку. У адваротным выпадку яе скарыстаньне можа павярнуцца новымі неабгрунтаванымі прэтэнзіямі да беларускіх выданьняў.

**Міхаіл Пастухоў,**
**доктар юрдычных навук, прафэсар, дырэктар Цэнтра прававой абароны СМІ пры Беларускай асацыяцыі журналістаў**

***P.S.** Пакрыўджанае самалюбства чыноўнікаў Дзяржкамдруку не дазволіла ім прызнаць сваю «паразу» ў спрэчцы з газэтай «Наша Ніва». 30 сьнежня 1998 году старшыня Дзяржкамітэту М.Падгайны накіраваў скаргу старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда на прадмет скасаваньня вынесенага рашэньня. Значыць, спрэчка газэты зь Дзяржкамітэтам па друку атрымае працяг.*

# На парозе трэцяга сьвету

**Алесь Аркуш**

З прыемнасьцю назіраю, як адліга зьлізвае сьнег на двары. Не таму, што я такі мярзьляк. Прычына больш глябальная, нават геапалітычная. Каб стаць паўнавартаснай краінай трэцяга сьвету, поруч з Іракам, трэба каб у Беларусі значна пацяплела. Бо назавіце мне хоць адну паўночную краіну, якую можна залічыць да клюбу трэцявартасных. Канада. Фінляндыя. Нарвэгія. Швэцыя. Ісляндыя... Усё ня тое. Трэцявартасныя ня любяць сьнегу, марозу, завеяў, ледзяшоў, іртаў... Не заганіш нікога з бананава-каўчуканосных краёў у палонку. Яшчэ чаго — жыўцом ды ў халадэчу. Вар'яцтва. Таму й не даюць нам веры. Не прымаюць за сваіх. А як нацыянальныя інтарэсы ў Афрыцы адстойваць, калі ня вераць, што яны там ёсьць? Дзякуй Богу, у Эгіпце пачалі здагадвацца. Адразу відаць — нашчадкі выбітнай цывілізацыі. Блакітная кроў фараонаў.

Мае рацыю шаноўны Дарвін — чалавек пайшоў ад малпы. Там, дзе малпы ня могуць жыць, там і чалавеку кепска. Ад каго тады пайшлі людзі з поўначы? Ад мядзьведзя? Ад расамахі? Ці можа ад ваўка? Бо гэтая жывёліна на поўначы жыве паўсюль, дзе толькі ёсьць якая-кольвечы спажыва. Апошняя вэрсія найбольш верагодная, бо й гістарычныя крыніцы сьведчаць у гэтым ключы. Узяць таго ж полацкага князя Ўсяслава Чарадзея. Перакінуцца ў ваўка яму было як... вельмі проста. Але ўрэшце мы й ваўкамі ня сталі, і да малпаў не дарасьлі. Трэба неяк вызначыцца. Прыбіцца да аднаго берагу.

Што нам дасьць уваходжаньне ў трэці сьвет? О, гэта процьма вартасных набыткаў. Па-першае, ня трэба будзе столькі газу на ацяпленьне выменьваць у Расеі за кілбасы і масла, самі зьямо. Па-другое, адпадуць клопаты з дастаўкай бананаў зь невядома якіх даляў, самасевам на родных гонях вырастуць. Па-трэцяе, увогуле ня трэба будзе столькі працаваць. Бо сёньня мы, як тыя ваўкі, — дзень і ноч у пошуках здабычы. Накручваем кілямэтры, высалапіўшы языкі. Зусім ня так паводзяць сябе, напрыклад, ільвы, якія далёка ня малпы. Спрынтарскі рывок — і цэлы дзень песьціся ў цянёчку пад баабабам.

Карацей, усіх вартасьцяў не пералічыць. Таму — наперад. Да стаяць на парозе трэцяга сьвету!

# ДУШОК

*Беларуская нацыяналістычная казка*

**Сяржук Сокалаў-Воюш**

Жыў ды быў на Белым сьвеце Душок. Разумненькі, крэпенькі, зграбненькі, але такі невялічкі, нават зусім маленькі. Проста, сказаць вам, такі дробненькі, што людзі часам імя ягонае з маленькай літары пісалі.

Панаваў гэты Душок на Беларусі здаўна. З суседзямі без патрэбы не сварыўся. Хіба што тыяназаляць пачыналі, а яшчэ горш — у непакліканыя госьці прыходзілі. Злаваўся тады Душок. Гневаўся. Але гнеў таго толькі на кароткі час хапала. Вымяталіся госьці і гнеў з сабой забіралі. Што й казаць, шчодрым быў наш душок на гэткія падарункі...

Аднаго разу, цяпер не згадаю: ці то ў сыботу, ці то ў пятніцу, ведаю толькі, што перад самымі Калядамі, а можа й на Купальле, прыйшлі да нашага Душка такія Непакліканыя госьці. Кінуўся быў Душок свайго гневу шукаць, ды... не знайшоў: альбо сам забыўся куды паклаў, альбо папярэднія гэткія ж госьці ўвесь з сабой вынесьлі і ні кроплі Душку не пакінулі.

А Непакліканыя тым часам за Душковым сталом расьселіся, стравамі далікатнымі частуюцца, марцыпанамі ласуюцца, крупнік ды ганушоўку вёдрамі жлукцяць, чвякаюць, адрыгаюць, пальцы свае ад смакаты аж па локаць аблізваюць, а напрыканцы бяседы ногі на стол паўскладалі і, як выглядае, дадому не зьбіраюцца. Можа наступнае вячэры чакаюць, а можа й пасьлянаступнага полудню.

Пачаставаў іх Душок і тэй вячэрай, і тым полуднем. А Непаклiканым — усё мала.

— Давай, — крычаць яны да бязгнеўнага Душка, — нам свой ложак: мы адпачываць будзем...

Далей — болей. Пачалі яны з таго ложка Душку загады аддаваць, ды яшчэ яго самога тыя загады на дзяржаўных белягох пісаць змусілі.

«Што ж, — падумаў сабе Душок, — госьці — людзі сьвятыя, хоць і Непакліканыя, а шанаваць трэба. Патрываю яшчэ крышачку, а там, як залёсьцць, можа яны й дадому зьедуць...»

Гэдак прайшоў год. Патлусьцелі госьці. Расхрабрыліся. Гаспадара, Душка, і наагул заўважаць перасталі. Здаралася, аддаюць яму чарговы загад, якіх за дзень да дзьвюх коп набіралася, у вочы Душковыя глядзяць, а ў паглядах такая зоць і пустэча, такая абыякавасьць, што страшна робіцца. І адчувае Душок: ня бачаць яго госьці Непакліканыя, праз яго, як праз цень, ягонымі абшарамі захапляюцца, праз яго, як праз здань, пад ягоным сонейкам грэюцца.

Хацеў быў Душок асьцярожна падказаць ім, што, маўляў, загасьцяваліся, ці ня час вам, маўляў, госьцейкі дарагія, дадому зьбірацца? Ды дзе там! Тыя і слухаць ня хочуць, а, як папраўдзе, дык і ня чуюць. Вушы тлушчам пазаплывалі, раты ад доўгага чвяканьня на лычы парабіліся, вочкі ад бязгнеўнага Душковага трываньня ўшчэнт абнахабіліся.

Прамінуў яшчэ год... А можа й дзесяць... Хто ведае?

Жывуць Непакліканыя госьці ў Душка прыпяваючы, а хто па такім жыцьці гады лічыць будзе? Самому Душку таксама няма калі. Ён то ў полі працуе, то есьці гатуе, а то і ў лазьні вялізныя непакліканскія сьпіны парыць ды трапха што ля прыбіральні з паперкай не стаіць.

Ото ж у лазьні ўсё й пачалося...

Цепліў Душок тую лазьню ад раніцы. Пад вечар Непакліканыя ледзьве ў дзьверы ўсунуліся: так растлусьцелі і во як горача. Можа ад во гэтай тлустасьці ці ад тае гарачыні й скруціліся на бок глузды ў Непакліканых.

— Ты што, — зачалі яны крычаць на Душка, — лазьні як сьлед не нацепліў!!! Мала таго, што мы на сабе цяжар тутэйшага бруду цягнем, дык нам яшчэ й памыцца па-людзку няма як! Холадам нас у магілу загнаць хочаш!

Кінуўся быў Душок на дрывотню, а там — ні трэсачкі, пабег быў да лесу, а там — ні галінкі, ні пянёчка трухлявага, выскачыў на тарфянішча — усё выбрана. Прымчаў ён назад у лазьню, ды й кажа:

— Даруйце мне, госьцейкі дарагія, няма чым гарачэй печку напальваць... Я й рады б дагадзіць вам, ды — неяк.

Зьнерухомелі госьці ад нечаканасьці: за столькі гадоў ім тут упершыню адмовілі. Стаяць. Маўчаць. Вачыма лыпаюць. Сківіцы ад неспадзеўкі аж да ступакоў паадвальваліся.

Спужаўся бязгнеўны Душок. Спалохаўся. Ды й як не застрашыцца? Гэта ж ня жартачкі — дарагіх гасьцей пакрыўдзіў.

А госьці тым часам ачомаліся і спаміжсобку пасвойму загаманілі. Слухаў іх, слухаў зьбянтэжаны Душок, аж раптам пачало яму здавацца, што гэта ня госьці нейкія і наагул ня людзі, а нешта такое, што нікому ня ведамае. Пачаў тады Душок уважней прыслухоўвацца. А госьці на яго — ні вокам. Адзін гаворыць, як гусяя гагае, другі — як зьмяя шыкае, трэці й дзясяты — наагул не разьбярэш, якім зьвярам галёкаюць. Хацеў быў Душок ужо за качарэжнік ухапіцца, каб павытурыць гэтую набрыдзь, як набрыдзь да яго нашай мовай зьвярнулася:

— Ці ня мог бы ты, Душок, з намі на чалавечай мове растлумачыцца, бо нам ад тваёго дзеканьня й цеканьня зусім глузды павыкручвала.

«Што ж, — падумаў на гэта Душок, — госьці — людзі сьвятыя. Як жа сьвятых не паслухацца».

Усчаў ён тады з кім па-гусінаму, з кім пазьмяінаму ці па якому там яшчэ вытлумачвацца.

Выслухалі яго госьці. Пашкадавалі, што раней сваімі мовамі гаварыць ня змусілі, бо дужа ж добра ўсе тыя мовы ў Душка выходзілі. Адно толькі словы некаторыя часам гучалі няўклюдна ды дзеканьне й цеканьне ў іх, як залатая істужка ў нямытыя косы, упляталася.

Падзівіліся ўсяму гэтаму госьці. Моўчкі пазахапляліся. Без усьмешак парадаваліся, а потым і кажуць:

— Мы, Душок, у цябе ўжо колькі часу жывем. Сем'і свае дзеля цябе пакінулі, думкі свае табе, як лепшаму сябру, па-сакрэту загадвалі, самых патаемных жаданьняў ад цябе ня ўтойвалі. І вось чым за нашыя давер і дабрыню ты нам сплочваеш: халоднай лазьняй, нялюдзкай гаворкай ды чорнай няўдзячнасьцю. Крыўдна, што й казаць, ды не такія мы, каб крыўду доўга памятаць. Зрабі ласку, дагадзі яшчэ раз: сядзь у печ на вугольле, можа лазьня й нацепліцца.

«Што ж, — падумаў Душок, — госьці — людзі сьвятыя. Не дагодзіш — вялікі грэх на сабе мець будзеш. Трэба, відаць, у печ лезьці».

Палыйшоў ён да печы. Горача. На тузін крокаў не прыступіцца. Ды што рабіць? Як не дагадзіць, хоць і Непакліканым...

Узяў ён тады конаўку з халоднай вадзіцай. Хацеў на сябе плёснуць, каб ня так горача ў печы гарэць было. Глянуў на ваду і аслупянеў. З вады пазірала на яго невядомая істота: валасы на галаве паблутаныя, у вачох пакора рабская й жах несусьветны, нос, як у нябожчыка, загойстраны, шчокі аж да хрыбціны ўсярэдзіну ўваліліся... Спалохаўся Душок. Конаўку асьцярожненька, каб не спалохаць пачвары, што там была, на лаву паставіў.

— Што з табой? — запыталіся госьці.

— Т-т-там, — адказаў Душок, — с-с-сядзіць н-н-нехта.

Узялі госьці конаўку. Глянулі. Свае ўкормленыя рылы ў водным ад-люстраваньні згледзелі. Залюбаваліся. Потым да Душка прыступілі:

— Гэта ж, — кажуць, — адбіткі нашых абліччаў там! Як мог ты, сьмярдзюк, назваць іх пачварамі?!

Глянуў Душок яшчэ раз у конаўку і як маланкай яго праз глузды рэзнула: «Дык гэта ж я такі! Гэта ж мае абліччa там адбіваецца! Гэта ж за гады непакліканскага гасьцяваньня гэтых ані разочку ў чыстую вадзіцу глянуць не давялося!»

Выпраставў Душок сваю сагнутую сьпіну. Думаў: кроў закіпіць, ды мала чаму кіпець засталося. Думаў булаву ў рукі схапіць, ды нешта ў пальцах хруснула й тыя не паслухаліся. Хацеў хацяб глянуць злосна, ды агонь у вачах не запальваўся.

Адно, што й змог ён зрабіць напачатку, дык гэта ўдыхнуць сьвежага паветра на поўныя грудзі. А ўдыхнуўшы раз, пачуў кроў у жылах, другі раз — моц у руках ды агонь у вачох — на трэці раз. Гнеў, што на сампачатку згубіўся недзе, таксама памужнелы й пасталелы гарачым полымем у сэрцы заняўся.

Глянулі на ўсё гэта Непакліканыя госьці й зьнерухомелі. Бо не Душок быў ужо перад імі, як некалі, але — Дух. І Дух не абы які! Высокі, зграбны й яснавокі НАЦЫЯНАЛЬНЫ ДУХ гэтай зямлі. Дух Маці-Беларусі, які зьбудзіць — небясьпечна, а ўлашчыць —ганарова. Дух гэты выклікаў павагу й пашану, хоць булавы ў руках і ня меў.

Увачавідкі памізарнелі Непакліканыя госьці. Кінуліся яны хто куды, і нехта зьбег такі, а сёй-той у дрыгвяным балоце нагой заграз, сёй-той у павучыньне ўблутаўся, сёй-той за шыпшынавыя голкі зачапіўся...

... Ясным сонечным ранкам, калі росы зіхцяць у траве, а паветра напаўняецца галасамі птушак, чуюцца мне часам зь цемры, што адпаўзае за вугол нашага краю, галасы. Галасы тыя слабыя, але надта ж зьвяглівыя. Бязладным хорам плявузгаюць яны свае бясконцыя: Дай! Прынясі! Дагадзі! Ды: гавары па-нашаму!

Гэтыя словы ліпнуць да мяне, як балотная твань да замурзаных лытак Багніка. І тады я тройчы ўздыхаю напоўніцу, бо ведаю сэнс кожнага чароўнага ўздыху, пры якім падаюць у нябыт прагнілыя бросьненыя словы Непакліканых, нястрашных і зьмізарнелых. Затым мы зь сябрамі нацепліваем лазьню, даём духу й пачынаем парыцца...

# БЫТАВУХА-2

**Славамір Адамовіч**



### АДЗІНАЕ ПЫТАНЬНЕ

«Спадарства, газэта СЫМБОЛЬ, з годнага па пачатку свайго сталага аўтара Пана Ськіргайлы азнаймуя (...) збор прапазыцыяў па складаньнесю шляхецка-колецкага рэгуляміну (...) а фармаваньні адпаведнага думкарэю (...). Цяперака, у чацьвёртым нумары, мы падаямо Падставовыя рэгулы. Глядзеця зваротны бок.»

На «зваротным» баку: «... бо спачуваньня, сардэчнасьць, любасьць – галоўная колецкая зброя, якая забясьпечвае ягоную змогу па над хвізычна дужымі й лепі ўзброенымі, як повязь із Богам Творцам, бо чым узьнёсьлейшы колецаў дух, гэным выжэйшыя ёсьць йісты яму спрыяюць. Чым выжэй істапатранатар, чым невасяжней яна для ворагаў, гэным кончшая перамога патранаванага Боскасьцяй колецу».

Пададзеныя цытаты ўзятыя зь лістка «Сымболь». Выдае яго дарослы ўжо, але яшчэ малады, чалавек. Да яго ў мяне маё адзінае пытаньне: чы велягойны пане-спадарыч мае праказываць такею мовасьцю як штодзень, чы йон адно толькі грымзоціць кірыліцкымі літэрамі ў свэйнай «вольнай газэце»?

### АГУРКІ І ПАРНАГРАФІЯ

Арганістка прыяжджала падвышаць кваліфікацыю. Спынілася, як і заўсёды, у Вялікай Жанчыны. І я, невыпраўны дуронік, ізноў нарваўся да іх на п'янку.

... Два смаўжы мужчынскага полу вярыдзгалі штосьці за сталом. Потым меншы зусім на падлогу споўз, а даўгалыгі на канапу перабраўся. Тут Вялікая Ж. і давай яму публічны мінэт вырабляць. Тады мы з тым, які ўжо на падлозе кешкаўся, налілі і пад гукі харалу аральнага выпілі. Салоны агурок пашынкавалі ды і закусілі. Я яшчэ й паліў усмак нечыя цыгарэты. Не скажу, праўда, ці дайшло да аргазму ці не, але агуркі былі смачныя і расол такі мяккі, ня рэзкі і бязь лішніх пахаў.

Апоўначы скруціліся мы спаць: Арганістка пайшла да Дзімачкі-пяцікурсьніка (некалі яна зь ягоным старэйшым братам шарохалася), Вялікая ў кампаніі хахаляў засталася, а мне прыйшлося на сваёй тэрыторыі аднаму тусавацца.

На другі дзень было нармальна, адно што суседзкі таракан утапіўся ў шклянцы кефіру. Прыйшлося абыходзіцца салоным з-пад агуркоў.

### НОВЫ

Дапіўсяткі Пузырэўскі – з дырэктарства скі-нулі.

Новы прыйшоў – дэпутат менгарвыканкаму.

Праваслаўны.

Заходжу аднойчы – па тэлефоне гаворыць. Натхнёна так у слухаўку: мае людзі! мае людзі! Во, думаю, які круты: сваіх людзей мае. Аж тут іншая рэпліка: «Вот, помню, когда меня Москва утвердила...»

Чалавек шчасьлівы ўспамінамі.

### ЦІЦЯНКОЎ

Усю восень ён правяраў дзяржаўныя ўстановы Савецкага раёну беларускай сталіцы.

Стаматалягічныя кабінэты ў школах, зубную дзіцячую паліклініку, дзе мая палюбоўнічка Юзя атрымоўвае аж два мільёны беларускіх рублёў.

Правяраў і 24-е вучылішча будаўнікоў.

Усё правярае т а в а р ы ш, усіх пільнуе на сваім райвыканкамаўскім узроўні. І хоць маштабы пакуль ня тыя, але ж які ціцянкоў ня марыць пра свайго лукашэнку.

### ХАРЭАГРАФІЯ

Да Дня настаўніка ў аднэй сталічнай школе з харэаграфічным ухілам кожны вучань мусіў здаць мільён рублёў (на кветкі!).

Зьяўленьне ў школьных калідорах журналіста стала здарэньнем надзвычайным і моцна ўсхвалявала дырэктрысу. Уся такая выфранчаная, з сыгнэтамі ледзь не на кожным пальцы, яна сказала карэспандэнту, што ўсё, заўтра будзе аддрукаваны загад, які забароніць настаўнікам прымаць ад вучняў ня толькі падарункі, але й кветкі. А сам журналіст быў папярэджаны, што ў выпадку публікацыі нэгатыўнага матэрыялу ён можа быць пакліканы ў суд. Дырэктрыса паабяцала таксама, што абавязкова знойдзе таго, хто вынес сьмецьце з хаты.

Гаварылі яшчэ пра школьныя сьня-данкі за пяць тысяч беларускіх рублёў і пра дырэктрысаву дачку, якая вучыцца ў іншай школе, а на сьняданак атрымлівае ад мамы кавалак натуральнага мяса й шклянку ня менш натуральнага соку.

Яшчэ на дзяржаву кузьнілі, якая так не паважае настаўніцкую працу. Пасьля зайшла класная кіраўніца і доўга тлумачыла карэспандэнту, чаму яна прымушае школьнікаў мець пры сабе дзёньнікі агульнага ўзору – зь фізіяноміяй ППРБ на вокладцы.

### ПСЫХІЧНАЯ

На тыдні яе адведаў муж. Прыехаў ён з Варшавы, дзе ўжо цэлы год нелегальна працуе на будоўлі. Прывёз гурбу трантаў і біжутэрыі для сваёй старэйшай гадоў на пяток сяброўкі. Але выйшла зь ёю неспадзяванка. У сьне Іруся выспавядала пра свайго палюбоўніка, якога год назад спаткала каля тэлефоннай будкі, што вісіць на будынку 13-га паштовага аддзяленьня.

Раніцай муж спытаў, хто такі Адамовіч, пра якого зь неўнікнёнай прыхільнасьцю яна ўсю ноч трызьніла. Любачка нічога лепшага не прыдумала і, як бальшыня жанчын у падобнай сытуацыі, арганізавала гістэрыку. Сцэна была разыграна настолькі ўдала, што мужу прыйшлося адвезьці Ірусю на вуліцу Бехцерава, дзе, кажуць, месьціцца псыхіятрычны стацыянар.

У лякарні пратрымалі жанчыну тры дні, а на чацьвёрты яна зьбегла і расказала сваю гісторыю мне.

***

Польскае радыё перадае, што ў Польшчы нелегальна працуюць каля 150 тысяч беларусаў, украінцаў і расейцаў.

### ПРАВААБАРОНЦА

Ёсьць недзе на сьвеце – зусім блізка – дачка, якой ён даў жыцьцё. Жанчына ёсьць – матка гэтай дзяўчынкі. Але ён ня разам зь імі. Не захацеў сям'і аж настолькі, што сеў на цэлы год у турму – за няўплату алімэнтаў.

Адсядзеў увесь тэрмін.

Зуб згубіў сьпераду (разец).

Выйшаў.

Прыстроіўся ў адной праваабарончай арганізацыі, піша ўспаміны пра турэмныя ўнівэрсытэты, стаіць з плякацікамі ў пікетах і, як і раней, пры выпадковых сустрэчах па-ідыёцку лыбіцца й гыгыкае.

Іншы раз хочацца даць гэтаму «праваабаронцу» па фізіяноміі, ды экспрэсіі не хапае.

### ПЯЛЬМЕНІ І ГЕАГРАФІЯ

Пасьля Варшавы асабліва цікава зайсьці ў беларускую краму – адзін раз.

Унівэрсам «Рыга», Менск, 20.12.98 году, 15.45. У крамнай лядоўні назіраю віртуальную прысутнасьць Расейскай Фэдэрацыі: пяльмені «Астанкінскія, «Уральскія», «Маскоўскія». «Маскоўскія» каштуюць 112 тысяч 700 рублёў. Новая назва наклееная на старую. Раней Калінкавіцкі мясакамбінат выпускаў «Аматарскія». Сёньняшнія «Маскоўскія» прадукуе барысаўскае ТАА «Сьвятлана» (калі верыць ратапрынтавай наклейцы).

Дата выпрацоўкі – 16/12. Нумар упакоўшчыцы адсутнічае. Смак – дрэнь.

---

**Славамір Адамовіч**

Рыхтуецца да выданьня

# Плавільшчыкі расы




*Выбраныя вершы*

У кнігу выбранае паэзіі ўвайшлі лепшыя вершы з ранейшых зборнікаў "Кальварыйскія клёны" (1990), "Зямля Ханаан" (1993), "Зваротныя правакацыі" (1994), "Каханьне пад акупацыяй" (1996), "Сьпіраль Бруна" (1998), а таксама творы, напісаныя пасьля 10-месяцовага зьняволеньня ў турме. У дадатку -- літаратурная аўтабіяграфія С.Адамовіча і крытычны аналіз ягонае творчасьці.

# Яшчэ, і больш пра ЎСЕВАЛАДА РОДЗЬКУ і некаторых ягоных школьных сяброў

**Спадар Мікола Прускі выдае ў ЗША газэту «Беларускі Дайджэст», якая перадрукоўвае самыя цікавыя публікацыі пэрыядычнага друку Беларусі. Нярэдка ў эміграцыйным выданьні зьяўляюцца й перадрукі нашаніўскіх артыкулаў. А нядаўна зьявіўся водгук на мой матэрыял пра Ўсевалада Родзьку, які «НН» друкавала ў чэрвені 1998 г. і які быў перадрукаваны «БД» у №6 (54) летась. Былы старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Язэп Сажыч пад псэўданімам «Юзік С.» надрукаваў успаміны пра старшыню ЦК Беларускай Незалежніцкай Партыі Ус.Родзьку. Думаю, што яны будуць цікавыя чытачам газэты.**

Сяргей ЁРШ



Язэп Сажыч

Вельмі цікавы артыкул у №6 (54) «Бел. Дайджэст» пра Ўсевалода Родзьку нагадаў, што людзі не забываюцца пісаць пра нашых патрыётаў і змагароў, такіх як У. Родзька, М. Вітушка, Філістовіч ды інш. Як-бы яны патрэбныя былі-б у сучаснай беларускай сытуацыі. Хоць я ня вельмі здольны да пісаньня, але артыкул у «Бел. Дайджэсьце» заахвоціў мяне крыху больш напісаць пра характар і дзейнасьць У. Родзькі.

Спаткаўся я і пасябраваў з Усеваладам («Вовай») у пятай клясе ведамай польскай гімназіі ім. Адама Міцкевіча ў Навагрудку. Ён сядзеў у другой лаўцы за мною і У[ладзімерам] Набагезам. Поркаў мяне шпількаю, вучачы «спартанскай» вытрываласьці. «Ну, Юзік – паспрабуй пажаліцца настаўніку, але лепш цярпі», – казаў ён, – таму я яго называў «пароцька». Дружылі мы добра, хоць ён ужо быў больш слаўным у гімназіі й калегаваў з багатымі польскімі вучнямі. Я памагаў яму ў матэматыцы, а ён мне ў польскай мове, якая была для мяне «ахілесавай пятою».

Як успамінае Б. Рагуля: «нялёгка прыходзілася беларускім хлопцам бараніць свае нацыянальныя правы ў польскай гімназіі». Як прыклад, хачу ўспомніць эпізод у сёмай клясе. З 1936 году палякі пачалі прапагаваць ідэю т.зв. «праваслаўных палякаў». Сярод вучняў распаўсюджвалі брашуркі, дзе пісалі, што нават К. Каліноўскі быў праваслаўным, але добрым польскім патрыётам. У гімназіі вучылі дзьве гадзіны на тыдзень рэлігіі. Асобна каталікаў, праваслаўных і габрэяў. Нашым праваслаўным «прафэсарам» быў а. Мікола Гарбацэвіч, які вучыў нас маліцца па-славянску, а лекцыі рэлігіі чытаў па-расейску.

І вось на пачатку сёмай клясы прыслалі нам маладога сьвятара, украінца а. Скрыпніка, які кончыў тэалёгію ў Варшаве, і загадалі вучыцца рэлігіі па-польску. Барыс Рагуля пайшоў на параду да свайго дзядзькі б[ылога] сэнатара Васіля Рагулі. Ён сказаў Барысу: «добра, што забаранілі вам вучыцца Закону Божага па-расейску, але ня маюць права забараніць па-беларуску». Барыс назаўтра шапнуў усім праваслаўным вучням, каб не адказвалі сьвятару па-польску, а Барыса ўсе слухалі. Неўзабаве да нас на лекцыю рэлігіі прыйшлі візытатары. Сам дырэктар гімназіі Рыбіцкі і выхавацца нашай клясы праф. Выганоўскі (настаўнік польскай мовы). Родзька па сваёй прывычцы парнуў мяне шпількаю, кажучы: «ты-ж не спалохайся «спартанец» і не прабуй балтаць папольску».

Пачалі лекцыю малітвай «Цару нябесны» і а. Скрыпнік задае пытаньне па-польску пра трэці Усяленскі Сабор і што было пастаноўлена на гэтым Саборы. Выклікаў Б. Рагулю, які на беларускай мове добра адказаў на пытаньне. Далей Янка Гутар таксама добра справіўся з пытаньнем па-беларуску. Але калі выклікалі Наташу Мацееўскую, то тая расплакалася й кажа: «прошэн ксендза, я побялоруску не умем». Айцец кажа: «то по польску ешчэ лепей». Візытатары са злосьцю пакінулі нашу лекцыю. Назаўтра дырэктар Рыбіцкі выклікаў Б. Рагулю ў канцылярыю й заявіў яму: «нам такі элемэнт не пажаданы ў нашай школе, шукай сабе іншае месца, калі хочаш далей вучыцца». Гэта выклікала вялікую шуміху ў гімназіі. Быў скліканы спэцыяльны сход «бацькаўскага камітэту», якога старшынёю быў дэнтыст Левін, габрэй. Б. Рагулю абаранілі.

Здаўшы матуры ў 1938 годзе, некаторых нашых хлопцаў змабілізавалі ў польскае войска ў школы падхаронжых (афіцэрская школа). Б. Рагуля і У. Родзька трапілі ў Замброў, Я. Сажыч і У. Набагез пад Торунь. У верасьні 1939 г. усе апынуліся на фронце, а пазьней у нямецкім палоне. У. Родзька быў паранены і нейкім чынам апынуўся ў Варшаве. Я. Сажыч, таксама паранены, уцёк са шпіталя палонных у Лодзі і вярнуўся дамоў. Б. Рагуля з палону вярнуўся ў Любчу, дзе яго неўзабаве бальшавікі арыштавалі, прыпісваючы нямецкае шпіёнства. У жывых застаўся ён проста цудам. Я. Сажыч заўчасу выяжджае ў Львоў і паступае вучыцца на Ўнівэрсытэт. У. Набагез застаўся ў палоне праз усю вайну.

У часе ваенных падзеяў я спаткаўся з У. Родзькам у Навагрудку ў 1943 годзе, калі ён прыехаў сюды зь Віцебску. Гэта быў ужо ня той шутлівы калега са школьных часоў, быў ён паважным мужчынам, жанатым і бацькам дачкі. Быў ён вельмі актыўным ва ўсіх беларускіх нацыянальных арганізацыях, уключна з падпольнай партыяй БНП, да якой я ўжо належаў, завярбованы Б. Рагулям і Саковічам. Аказалася, што У. Родзька быў кіраўніком гэтай партыі пад псэўданімам «Воўк», пасьля сьмерці а. Гадлеўскага. Цяпер нашыя асабістыя адносіны сталіся іншымі, бо я адчуў ягоную ўладу і кіраўніцтва, і быў гатоў выконваць ягоныя загады.

Калі я кончыў вышкаленьне ротаў беларускага чыгуначнага батальёну ў Лідзе, Маладэчне, Стоўпцах і нарэшце ў Баранавічах (немцы перасталі даваць зброю), дык тут я асеў настала, як камандзер-лучнік паміж батальёнам беларускіх чыгуначнікаў, раскіданых па ўсіх станцыях Заходняй Беларусі. На ўсходзе ў Менску быў другі такі камандзер – Дзімітры Чайкоўскі, добры мой калега яшчэ з афіцэрскіх курсаў БСА (Беларускай Самаахованы – С. Е.) у Менску. Цяпер я меў больш вольнага часу і мог заўсёды куды хаця ездзіць цягнікамі. Амаль кожную суботу езьдзіў у Менск, каб паглядзець беларускую опэру (лічу сябе энтузіястам). Часта заходзіў пераначаваць у т. зв. «беларускі кавалерскі калгас», дзе жылі Шукелойць, Кароль, Галяк ды інш. Яны заўсёды прымалі мяне ветліва. Спаткаўшыся са мною, У. Родзька сказаў: «Юзік, ты больш гультаіць ня будзеш, ёсьць шмат розных абавязкаў і працы». Загадаў мне пераехаць у Менск і абняць камандаваньне школы кіраўнікоў СБМ, якую ён адкрыў і быў у ёй галоўным выкладчыкам. Маім заданьнем было трымаць парадак і вучыць вайсковай муштры. Быў сярод тых вучняў і малады Мікола Г., які, спаткаўшы мяне неяк у Канадзе, сказаў: «гэта ты той, што ганяў і муштраваў нас бязьлітасна ў Менску, але мы цябе любілі і шанавалі». Прыпамінаю таксама аднаго юнака, Чобчыца, які меў прыгожы голас-тэнар, і я яго падахвочваў вучыцца сьпяваць і вырабляць голас.

У 1944 годзе падрыхтоўваўся «Другі Ўсебеларускі Кангрэс». У. Родзька тады быў ужо сябрам Беларускае Цэнтральнае Рады, як прадстаўнік моладзі. Ён мне паведаміў, што я мушу са сваімі падафіцэрамі, добра ўзброенымі, быць часткай аховы гэтага Кангрэсу. Ён патлумачыў, што Кангрэс мае выносіць радыкальныя пастановы, уключна з агалошаньнем Незалежнасьці Беларусі. Калі-б немцы захацелі разагнаць гэты Кангрэс і арыштаваць дэлегатаў, дык мы павінны былі збройна бараніць дэлегатаў. Мне паручылі пільнаваць балькон на другім паверсе, адкуль я меў нагоду прыслухоўвацца да прамоваў і дыскусіяў Кангрэсу. Кончылася ўсё спакойна і хутка ўсе пачалі эвакуавацца зь Менску. Я вярнуўся ў Баранавічы, адкуль зь дзьвюма сотнямі чыгуначнікаў ад'ехаў апошнім цягнікам з Цэнтральнае станцыі на захад. Заехалі мы ў Сарбрыкэн ля француская граніцы, дзе нас раззброілі і заставілі працаваць пры направе чыгункі.

Ужо тут дасягнулі нас бюлетэні БНП, у якіх кіраўнік партыі Воўк (Родзька) загадваў мне трымаць кантакт з усімі сябрамі і пры добрай нагодзе перайсьці да францускіх паўстанцаў: Аднак да гэтага не дайшло. Да мяне наведаўся Б[арыс] Рагуля з важнымі паперамі і забраў мяне ў Бэрлін. Там функцыянавала Бел[аруская] Цэнтральная Рада на чале з Р[адаславам] Астроўскім, К[астусём] Езавітавым, Ю[рыем] Сабалеўскім, У. Родзькам і іншымі. Тут запрапанавалі мне быць адным з камандзераў дэсантнага батальёну ў Дальвіцы. Аднак, прыехаўшы туды, дзе спаткалі мяне з энтузіязмам былыя вучні падафіцэрскай школы БСА ў Навагрудку ды некаторыя з чыгуначнага батальёну, я пераканаўся, што гэтая група ўжо добра вышкаленая і гатовая да адлёту.

К. Вітушка мяне пацешыў і сказаў, што мне трэба заставацца на захадзе. Перад адлётам, спаткаўшыся зь Вітушкам у Бэрліне, ён мяне абняў на разьвітаньне і сказаў: «Маліся і жадай мне шчасьця». Ня мог я паўстрымацца ад сьлёзаў, ведаючы, што гэтыя хлапцы ішлі на сьмерць, каб жыла Бацькаўшчына. У міжчасе ў Бэрліне мяне паклікаў некалькі разоў у сваю канцылярыю генэрал К. Езавітаў, якому я мусіў здаваць рапарт, дзе я бываў, колькі людзей меў пад сваёю камандай і г.д. Ён усё дакладна запісваў, у гэтым часе паведаміў мне, што мяне шукае У. Родзька. Я адшукаў яго ў нейкім рэстаране ў падвале, дзе ён вёў тайную нараду зь нейкімі ўкраінцамі і палякамі. Выйшаўшы з гэтай канфэрэнцыі, У. Родзька прывітаўся са мною сардэчна і сказаў: «Здароў, Юзік, як маешся і як пачуваешся? Маю для цябе важнае заданьне. Мусіш скантактавацца зь Д[зімітрыем] Касмовічам і разам перабрацца ў Швайцарыю, як ягоны вайсковы аташэ. Там вам трэба дабрацца да аліянцкіх амбасадараў і рэпрэзэнтаваць беларускую справу ад БНП, бо-ж без дапамогі звонку ніякае змаганьне ці паўстаньне ня ўдасца». У. Родзька перадаў мне пачку з паперамі, у якой было таксама 5 тысяч нямецкіх марак на расходы.

Зь Дзім[ітрыем] Касмовічам мы даехалі да места Зінгэн у Альпах. Затрымаліся ўназначаным гатэлі, дзе Д. Касмовіч ніяк не мог заснуць, прадчуваючы нядобрую сытуацыю. З намі меў скантактавацца нейкі спадар Шантыр, які меў перавесьці нас праз гарыстую граніцу. Але дзесьці каля чацьвёртае гадзіны раньня чуем стук у дзьверы і нейкая жанчына, гаворачы па-польску, сказала нам, каб мы ўцякалі з гатэлю, бо нямецкае СД на нашых сьлядох і пляное нас арыштаваць. Відаць быў нейкі данос. На гэтым скончылася мая пасольская місія. Больш не спаткаўся з Родзькам ані з Касмовічам.

Па рэкамэндацыі Б. Рагулі і ген[эрала] Езавітава мяне назначылі камандзерам афіцэрскай школы пры новаарганізаванай дывізіі ў Баварыі.

Маё супрацоўніцтва з Усеваладам Родзькам можа зацікавіць некаторых чытачоў, а для маладых нашых гісторыкаў магчыма прыдасца гэты матэрыял. Падсумоўваючы, хачу зазначыць, як і Сяргей Ёрш, што проста не вытлумачальна, адкуль узялася нацыянальная беларуская арганізаванасьць у часе Другое Сусьветнай вайны. Беларусы амаль не належалі да ніякіх палітычных арганізацыяў перад вайною. Самі сабою хлопцы выхоўваліся і гартаваліся нацыянальна і патрыятычна. Асабіста я меў шчасьце выхоўвацца ў гэтым сэньсе, маючы двух сяброў, вельмі здольных лідэраў, – Б. Рагулю і У. Родзьку, зь якіх я часта ня ведаў, каго больш шанаваць ці слухаць. У. Родзьку я ўважаў як больш ідэоляга-рамантыка і беларускага патрыёта, вельмі здольнага арганізатара-падпольшчыка. Б. Рагуля, зь якім я больш бываў разам, быў больш практычным палітыкам, маючы палітычнае выхаваньне яшчэ зь юнацтва ад свайго дзядзькі сэнатара Васіля Рагулі. Б. Рагуля да таго меў уроджаную здольнасьць і «харызму» да арганізаванага кіраваньня. Не магу не пахваліцца, што ў беларускім адраджэньні ў часе вайны мусіць найбольшую ролю адыграла Наваградчына ў справе вайсковай, адмі-ністрацыйнай, адукацыйнай і культурнай. Нашыя лідэры пераважна выводзіліся з былых настаўнікаў і вучняў калішняй Беларускай гімназіі ў Навагрудку.

Юзік С.

Беларускі Дайджэст, №8 (56), верасень 1998 г.

# ДВА СЛАВЯНСКІЯ ЗЬЕЗДЫ

У пераломныя пэрыяды гісторыі даволі востра паўстае праблема суадносінаў нацыянальнага і інтэрнацыянальнага. Адным з такіх пэрыядаў быў пачатак XX стагодзьдзя. Гэта быў час абуджэньня да нацыянальнага жыцьця народаў двух вялікіх, шматнацыянальных імпэрыяў: аўстра-Вугорскай і Расейскай. Не засталіся ўбаку ад гэтага працэсу і беларусы. Зімой 1902-1903 г. прадстаўнікі беларускай вучнёўскай і студэнцкай моладзі заснавалі першую беларускую палітычную партыю — Беларускую рэвалюцыйную грамаду, якая на першым зьездзе была перайменаваная ў Беларускую сацыялістычную грамаду. У 1906 годзе выходзіць першая легальная газэта «Наша доля», а пасьля яе забароны — «Наша Ніва». Беларускі нацыянальны рух паступова набірае моц. Беларусы ўзьнімаюць пытаньне пра навучаньне на роднай мове, патрабуюць адкрыцьця краёвага ўнівэрсытэту ў Вільні. «Вясной 1908 году ў Вільні сабраліся людзі абдумаць справу, як бы адкрыць тутака ўнівэрсытэт; на наш вялікі край ён на гвалт патрэбны», — паведамляла 4 сьнежня 1908 году «Наша Ніва.»

Але гэтыя памкненьні сустрэлі вострае незадавальненьне з боку палянізатараў і русіфікатараў. Дзеля барацьбы з набіраючым моц нацыянальным рухам на ўзбраеньне бярэцца ідэя славянскага брацтва. Прычым гэтая ідэя трактуецца даволі своеасаблівa. Так праўрадавае выданьне «Новое Время» падкрэсьлівае, што расейцы пойдуць на пагадненьне з палякамі толькі тады, калі палякі ня будуць падтрымліваць і прызнаваць адраджэньня беларускага і ўкраінскага народаў у Расеі і Аўстра-Вугоршчыне. Улетку 1908 году ў Празе з ініцыятывы Расеі быў скліканы зьезд славянскіх нацыяў. Адным з галоўных пунктаў праграмы зьезду, прапанаваных «новымі славянафіламі», была прапанова: вялікарусаў, беларусаў і ўкраінцаў лічыць за адзін «рускі» народ. Таму беларусаў і ўкраінцаў на гэты зьезд нават і не запрасілі. Беларусь і Літву на зьезьдзе славянскіх нацыяў прадстаўлялі супрацоўнікі напалову ўрадавай газэты «Виленский Вѣстник», рэдактары віленскіх польскіх газэт «Kurjer Litewski» і «Goniec Wilenski». Як адзначала «Наша Ніва», на зьездзе палякі й расейцы, «старшыя браты нашы, прадавалі малодшых братоў —беларусаў і ўкраінцаў, ды кожны думаў на гэтым гандлі зарабіць», і пры гэтым гаварылі «аб любові ўсіх славянаў, аб славянскім банку і г.д.» Нацыянальныя правы беларусаў і ўкраінцаў дэлегатамі зьезду нават не абмяркоўваліся, нібыта гэтых народаў не існуе на сьвеце. Была выказаная думка, што найбольшым ворагам славян зьяўляюцца немцы. Так «Goniec Wilenski» адзначаў, што гэта немцы навучылі ўкраінцаў, каб тыя не ехалі ў Прагу, а ўкраінскі нацыянальны рух нібыта зьяўляецца нямецкай інтрыгай.

Зусім іншыя адносіны да праблем прыгнечаных славянскіх народаў былі на Ўсеславянскім зьезьдзе прагрэсіўных студэнтаў, які адбыўся ў чэрвені 1908 году ў Празе. Чэскія студэнты склікалі сваіх сяброў-студэнтаў усіх братніх славянскіх народаў на зьезд, каб разам абдумаць, як дабівацца для кожнай нацыі права свабодна працаваць дзеля адраджэньня й разьвіцьця сваёй культуры, роднай мовы. Як адзначала 4 ліпеня 1908 году «Наша Ніва», у Прагу прыехалі прадстаўнікі «прагрэсіўных студэнтаў вялікарусаў, палякаў, украінцаў, беларусаў, сэрбаў, лужычан, харватаў, славакаў, славенцаў і інш. Усіх іх злучалі супольныя думкі аб свабодзе, роўнасьці і брацтве ўсіх людзей і нацыяў». На першым паседжаньні студэнт Ефімоўскі ад імя лепшай часткі расейскай моладзі выказаў сваю нянавісьць да уціску й прыгнёту розных нацыяў.

Беларуская сэкцыя на зьезьдзе складалася з 6-ці чалавек. Яе ганаровымі старшынямі былі абраныя рэдактар «Нашай Нівы» А. Уласаў і вядомы дасьледчык беларушчыны М. Федароўскі. Вітаючы ўсіх сабраных ад імя беларусаў, студэнт Абухоўскі падкрэсьліў, што нацыянальнае адраджэньне беларускага народу ўжо пачалося. Адзін са студэнтаў-беларусаў зазначыў, што «беларусы ў Празе былі яшчэ 500 гадоў таму, надрукавалі па-беларуску Біблію». Але працяглая палянізацыя і русіфікацыя давялі да таго, што ў Беларусі «няма ня толькі ніводнай сярэдняй, але й ніводнай ніжэйшай (пачатковай) школы, дзе вучылі б па-беларуску» (Наша Ніва, 1908, 4 ліпеня). Студэнт Каляда распавёў удзельнікам зьезду, што беларусам ня толькі забараняюць вучыцца ў роднай мове, але нават і студэнтам не даюць вывучаць яе ва ўнівэрсытэтах. На зьезьдзе ўсе яго ўдзельнікі вельмі цікавіліся беларускай нацыянальнай справай. Яскравым пацьверджаньнем гэтага зьяўляецца прынятая дэлегатамі зьезду спэцыяльная пастанова па беларускім пытаньні:

«Уважаючы, што беларускі народ, — хаця ён да гэтага часу быў усімі забыты і яго культурныя патрэбы былі сілаю заціснуты, — усё-ж такі ня страціў сваёй мовы, звычаяў, ды зноў прабіваецца да новага жыцьця, — зьезд прагрэсіўных славянскіх студэнтаў у Празе прызнаў, што для свайго разьвіцьця гэты народ павінен і мае права дамагацца:

1) каб у Беларусі было заведзена агульнае навучаньне ў роднай мове яго;

2) каб у сярэдніх школах (гімназіях) выкладалі гісторыю беларускую й вучылі б мове беларускай;

3) для ўзросту культуры беларускага народу, каторы жыве зь зямлі, каб завялі пачатковую навуку аб сельскай гаспадарцы пры народных школах, а таксама зімовыя курсы й сярэднія школы гаспадаркі сельскай, дзе навука давалася б па-беларуску;

4) каб у Вільні адкрылі беларуска-літоўскі ўнівэрсытэт;

5) а пакуль гэта будзе, каб завялі ў іншых унівэрсытэтах расейскіх катэдры гісторыі й этнаграфіі беларускай, бо патрэбныя настаўнікі гэтых навук;

6) ва ўсіх гэтых справах беларусаў будзе падтрымліваць усё прагрэсіўнае славянства».

Валянцін Мазец

# НІВОДНАЙ ПАШТОЎКІ




**Глыбокае на старых паштоўках. Уладзімер Скрабатун. Менск-Глыбокае**: БГКЦ, 1998. 136 с.

Мне цяжка ўявіць сабе кнігу, прысьвечаную паштоўкам, на якіх выяўленыя, напрыклад, галяндзкія ці гішпанскія гарады. Не таму, што іх ня можа быць, а таму, што цяжка ўявіць іх аб'ёмы і аўдыторыю. Пэўна, што выявы на паштоўках Мадрыду, Амстэрдаму, Барсэлёны ці Гаагі маглі б скласьці не адзін том. Але навошта такія тамы там, дзе гэтыя гарады перахавалі і свой выгляд і свой дух да сёньня?..

Для беларусаў старыя выявы колішніх местаў і мястэчак – тэма амаль сакральная. Гэта ня толькі крыніца элегічнае тугі альбо эстэтычных перажываньняў. Для беларуса гэта, апроч іншага, і дакумэнт, ці не адзінае пацьверджаньне паўнавартаснасьці сваёй культуры й гістарычнай адметнасьці. Тыя лякуны сьведамасьці, якія не запоўніла недасканалая адукацыя, і жыцьцё амаль з асалодаю запаўняецца відмом іншага, ужо далёкага, але не чужога жыцьця. Таму й гэтая кніга Ўладзімера Скрабатуна і, магчыма, шмат будучых кніжак сустрэнуць у Беларусі непазьбежны посьпех.

Гэта другая кніга, прысьвечаная выявам на паштоўках нашых гарадоў. Першая выйшла ў 1984 годзе у выдавецтве «Беларусь» і атрымала, як тады казалі «усесаюзнае прызнаньне». Гэта была кніга Вячкі Целеша «Менск на старых паштоўках». Паміж дзьвюма кнігамі былі толькі наборы факсымільных паштовак, прысьвечаных Віцебску, Полацку, Горадні й Гомелю. А тут кніга, прысьвечаная мястэчку...

Аўтараў абедзьвюх кніг яднае яшчэ й тое, што яны перадусім аматары: Целеш – мастак, Скрабатун – архітэктар. Тое, што апынулася не пад сілу дзяржаве, зьдзейсьнілі сабе ў асалоду апантаныя ўласным хобі людзі. На гэтым падабенства й сканчаецца. Аўтар «Глыбокага...» узяў сабе за мэту таксама распавесьці гісторыю мястэчка, напоўніць яе людзкім зьместам. У. Скрабатун прыцягвае шмат дакумэнтальных сьведчаньняў, што ўжо засталіся вядомымі толькі хіба самому аўтару. У выніку кніга ўяўляе сабою міні-энцыкляпэдыю глыбоцкае мінуўшчыны. У першую чаргу гэта тычыцца гісторыі архітэктуры. І яшчэ: новая кніга выдадзеная не дзяржаваю, а грамадзкай арганізацыяй (БГФ «Наша Ніва»).

Паштоўка – значна больш, чым проста фота. Гэта паліграфічны прадукт, разьлічаны на тое, што багата людзей патрымаюць яго ў руках, напішуць на ім колькі словаў, прадставяцца самі й назавуць адрас. А пасьля, сагрэтая цеплынёю чыіхсьці рук, паштоўка патрапіць у далёкія мясьціны, гарады й краіны, распавёўшы ім пра места, зь якога была выпраўленая ў сьвет. Яе будуць ашчадна зьберагаць, шматкроць да яе дакранацца, згадваць, дзякуючы ёй, пра людзей. Што можа быць людчэйшага? Толькі хіба кніга з дэдыкацыяй.

У кнізе «Глыбокае на старых паштоўках» сабраны ўнікальны іканаграфічны матэрыял, часам невядомы раней нават навукоўцам. Аўтар зьбіраў яго на працягу двух дзясяткаў гадоў у Менску, Рызе, Варшаве, і, натуральна, у Глыбокім. У кнізе 60 ілюстрацыяў. Нават першае знаёмства зь імі дае глебу для развагаў. За часамі расейскага, польскага ды нямецкага панаваньняў былі выдадзеныя дзясяткі паштовак зь відамі мястэчка й ягоных ваколіцаў, якія, апроч утылітарных функцыяў, меліся пазнаёміць з хараством гэтага кутка зямлі. За ўвесь жа савецкі час была выдадзеная толькі адна паштоўка – у 1987 годзе. Але нібы наўмысна – безаблічная, з выявамі пляцу Леніна, дому Саветаў і помніка савецкім жаўнерам. Затое яна мела паталягічна вялікі наклад, непараўнальны з усімі папярэднімі: 10.500 асобнікаў. Праўда, гэтая паштоўка была падпісаная і па-беларуску. Беларускія подпісы мелі раней толькі дзьве з прадстаўленых у кнізе паштовак. Абедзьве выйшлі ў часе апошняй вайны, за нямецкай акупацыяй.



Зрэшты, паштоўкі – толькі падстава пазнаёміцца з помнікамі й краявідамі, гісторыяй аднаго з самых адметных нашых мястэчак. У заключэньні сваёй прадмовы, запрашаючы ахвочых да знаёмства й супрацоўніцтва, Уладзімер Скрабатун піша: «Любая гістарычная праца адлюстроўвае пагляд аўтара, ягоную інтэрпрэтацыю тых ці іншых падзеяў. Часам сьведкам пэўнай падзеі быў толькі адзін чалавек, і пацьвердзіць гэтыя факты ўжо немагчыма». Сапраўды, застаецца яшчэ шмат таямніцаў у гісторыі гэтага мястэчка на азёрах. Напрыклад, дзе, паміж Глыбокім і Беразьвеччам, была капліца Сьвятога Язэпа і як яна выглядала? Дзе былі й якія былі дзесяць глыбоцкіх сынагогаў? Ужо забылася нават, дзе быў і як выглядаў тутэйшы мячэт, які быў пастаўлены толькі ў 1931 годзе... Гэта значыць, што будуць яшчэ новыя кнігі, бо перадусім ёсьць чалавек, які гатовы іх рабіць. Глыбокаму пашчасьціла.

І яшчэ. За ўсе гады незалежнасьці Беларусі ў Глыбокім новых паштовак не выходзіла. Таму ў кнізе няма ніводнае ўласна беларускае паштоўкі.

С.Х.

*Праця́г са старонкі 1*

**Якія крахі чакаюць нас?**

**Тады, у 1899-м, зусім як сёньня, адыходзіла ў нябыт старая беларуская культура. Памёр Янка Лучына, паміраe Альгерд Абуховіч, праз год памрэ сам патрыярх новае беларушчыны Францішак Багушэвіч. Дарэчы, а што ён робіць цяпер? Божа, якая знаёмая сцэна! Ён здае ў Віленскую губэрнскую друкарню рукапіс сваёй новай празаічнай кнігі. І што? Атрымлівае адмову, маўляў «в такого рода сочинениях наблюдается тенденция разбить и ослабить литературное и национальное единство». Чым не заключэньне Дзяржаўнага камітэту па друку на чале са спадарамі замяталінымі-падгайнымі! Ці ня тымі ж словамі яны адмаўляліся друкаваць быкаўскую «Сьцяну».**

**Ага, улада. Надзённы і няўсыпны клопат сёньняшняе беларускае дэмакратыі. Колькі разоў за дзень вы прамаўляеце, чуеце, прачытваеце або проста згадваеце слова «Лукашэнка»?.. І апалягеты і апазыцыянэры звычайна адказваюць: ды я — амаль ні разу. А вы ўявіце, што будзе з імем, якое ва ўсіх на слыху, праз сто гадоў. Ці можаце вы назваць імя кіраўніка нашай краіны ў 1899-м? Асабіста я ня змог, пакуль не разгарнуў кнігі. Тагачаснага першага забылі наглуха, хоць сьляды ягонага праўленьня дагэтуль сустракаюцца ў Беларусі, і ніхто ня скажа, што ў свой час ён быў «на слыху» менш за сёньняшняга.**

**Так праходзіць зямная слава...**

**Вядома, у сёньняшнім параўнаньні новага году з 1899-м шмат адвольнасьці. Гэта значыць, у нас заўсёды ёсьць магчымасьць сказаць, што ўсё няпраўда і паралелі прыцягнутыя за вушы. Нават калі так, каляндарная магія — усяго толькі магчымасьць прадбачаньня, прынамсі, калі гутарка ідзе пра пэрспэктывы беларускага разьвіцьця.**

**Урэшце, кантэксты таго часу й нашага сапраўды вельмі падобныя. Але галоўнае нават ня ў тым, праўда ці няпраўда напрадбачаная такім чынам. Галоўнае ў тым, ці можам мы самі зьмяняць сваю будучыню, наколькі валодаем ёю. Сыходзячы з прыведзеных параўнаньняў, мы можам прынамсі казаць пра досьвед, які маем і які хацелі б або не хацелі паўтарыць.**

Сяргей Паўлоўскі

# ПЯЦЬ ХВІЛІН НА ЗАХАРАЎСКАЙ

**Зьміцер Бартосік**

«А ты памятаеш, з чаго пачалася твая беларушчына?» — неяк запытаўся я ў прыяцеля-літаратара бяз дай прычыны. «Не зразумеў пытаньня», — адказаў той. «Ну вось, напрыклад, ці памятаеш ты першую сваю беларускую кніжку, ці першую песьню. Толькі не кажы, што табе яе сьпявала маці». «Ну, так адразу й не ўзгадаеш». «А я, уяві сабе, памятаю сваю першую кніжку!» «І што ж гэта было?» «У лабірынце вуліц» Дамашэвіча». Прыяцель доўга ўзіраўся ў мяне, пакуль ня вымавіў: «А хто гэта?» «Пісьменьнік!» — адказаў я. «І што, табе спадабалася?» — недаверліва запытаўся ён. «Прынамсі запала ў памяць. А інкаш як бы я ўзгадаў прозьвішча аўтара?» «Ды колькі іх там было за сто гадоў!» — нібы сьнежкаю запусьціў у мяне прыяцель цэлым стагодзьдзем, але размову падхапіў.

«А сапраўды, як падумаць, іх было ня так і шмат, чые імёны й радкі мы будзем згадваць у трэцім тысячагодзьдзі. Але самы жах, калі прыкінуць, што ўся іх страсьць, энэргія і жыцьці пайшлі на тое, каб адбіцца ў назовах ускраінных вуліц, паўстаць параграфамі неабавязковага школьнага прадмету ды быць узгаданымі двума ўдзячнымі нашчадкамі ў нейкай забягалаўцы. А тым, што за суседнім столікам, і бязь іхных цытатаў някепска п'ецца». І тут я зь ім пагадзіцца ня мог. «П'ецца ім, уяві сабе, вельмі кепска. І чым далей, тым больш безнадзейна».

Праз вакно закусачнай сьвяціліся нэонам тры дзявяткі нарэшце насталага году. Нібы спакусьлівыя лічбы, што выпалі на табло «аднарукага бандыта». Вось толькі хто возьме гэты чынш?

Мы, ужо колькі гадоў як ня геніі, але яшчэ й не «бескрылдатыя паэты», скончылі размову тым, што лічбы сьвяцілы выключна нам, і выйшлі на вуліцу. Скончаўся ўсяго толькі трэці дзень перадапошняга году другога тысячагодзьдзя. І гэты мізэрны факт ні мог не напаўняць нашыя зьлёгку захмялелыя мазгі ўпэўненасьцю, што ўжо менавіта нас там будзе каму ўзгадаць. Раптам, зірнуўшы на супрацьлеглы дом, я зрабіў маленькае адкрыцьцё. Мяне й раней зьдзіўляў прыгожы фасад будынка канца мінулага стагодзьдзя, недарэчна засьнутага дварам гасьцініцы «Мінск». І толькі зараз нарэшце да мяне дайшло, што я стаю на самай сапраўднай Захараўскай вуліцы. І гатэльны двор — гэта яе былая праезная частка. Далібог, толькі

# БЫЦЬ ПАДОБНЫМ ДА ППРБ

**Севярын Квяткоўскі**

Ці хацелі б вы быць падобным да сёньняшняга першага прэзыдэнта РБ? Найперш мяне цікавіў адказ наймалодшага пакаленьня беларусаў. Таму я скіраваўся ў так званую «трубу» — падземны пераход на станцыі мэтро «Кастрычніцкая». Менавіта ў гэтым месцы ў зімовым Менску можна сустрэць ці ня поўны спэктар самых разнастайных сталічных падлеткаў:

— Вядома, ён падабаецца мне ў паліпіцы, правільныя дзеяньні праводзіць.

Гэты хлопец сустрэў маё пытаньне падазрона. Здавалася, ён ліхаманкава спрабаваў узгадаць, да якога «лягеру» адносіцца Радыё Свабода, карэспандэнтам якога я прадставіўся. А вось дзяўчынкі, якіх перад тым забаўляў хлопец, былі сарамлівыя, але й больш сьмелыя:

— Не падабаецца... Ну, мне не падабаецца!

— Ха! А нас не пасадзяць?..

— А навошта на яго быць падобным? Трэба заўсёды быць самім сабою.

— Я ні да каго не хачу быць падобным, ідэалаў у мяне няма. Наогул ідэалаў не існуе.

У адказ на маё пытаньне падлеткі альбо пагардліва ўсьміхаліся, альбо пачыналі сыпаць кпінамі. Калі я выйшаў з падземнага пераходу на вуліцу, дык тут сваё пытаньне пачаў задаваць маладым, але ўжо дарослым людзям:

— На прэзыдэнта? Цікавае пытаньне. Мне падабаецца, што ён свае прамовы гаворыць не з паперкі, як іншыя, а сапраўды відаць, што чалавек сваімі словамі кажа. Мне гэта падабаецца. Я сам такі. Што яшчэ? Відаць, нічога больш не скажу. У мяне сваіх добрых якасьцяў шмат.

Гэты спадар выглядаў цалкам задаволеным жыцьцём. Па зьнешнім выглядзе ягонага суседа таксама нельга было сказаць, што яго абыходзяць якія-небудзь крызысы. Тым ня менш:

— Наўрад ці... Надта шмат пытаньняў. А самае галоўнае — няма праўды.

Увогуле, людзі, якія ня бачылі прывабных рысаў у асобе ППРБ, зазвычай давалі сьціслыя адказы. Як гэты малады спадар, які паспрабаваў даць прэзыдэнту ёмістую характарыстыку адным словам:

— Клептаманія.

Таксама часьцяком мне трапляліся людзі, якія спрабавалі іранізаваць, абы не сар-



# SIC TRANSIT GLORIA MUNDI

**Сяргей Харэўскі**

Менская губэрня заўсёды была самай вялікай (ад Навагарадка да Мазыра) і самай беларускай. Кім жа былі менскія губэрнатары? Людзкая (беларуская) памяць, на жаль, нічога пра іх не захоўвае, і тое, што застаецца, застаецца ў кнігах і архівах. За рэдкім выключэньнем, гэта былі прыстойныя й спраўныя кіраўнікі. Напрыклад, адзін зь першых губэрнатараў Меншчыны, Захар Карнееў, праславіўся талеранцыяй, а таксама тым, што запачаткаваў яшчэ ў 1800 годзе вялікі парк з клюмбамі, прысадамі ды штучнымі каналамі. На адной з паркавых калёнаў было высечана лацінаю: Post laborem requies (пасьля працы — адпачынак). Парк, першы грамадзкі парк адпачынку ў гісторыі нашай краіны, існуе ў Менску да сёньня, але цяпер ён названы імем пралетарскага літаратара Горкага. А калісьці менавіта іменем губэрнатара Карнеева ўдзячныя менчукі называлі галоўную вуліцу гораду — Захараўская.

Адзін з пазьнейшых губэрнатараў, Сямёнаў, прывёў у парадак усе архівы на сваёй падначаленай тэрыторыі і быў ініцыятарам выданьня «Актаў Менскай губэрні», унікальнай крыніцы для вывучэньня беларускай гісторыі. Яшчэ адзін, Чарыкаў, праз колькі гадоў пасьля паўстаньня Каліноўскага, застаўся ў гісторыі як руплівец чысьціні й парадку і быў апантаны ідэямі санітарнае прасьветы. Толькі ў вёсках губэрні ім было пабудавана паўтысячы лазьняў, а ў Менску ён «запусьціў» вадаправод.

Хто быў губэрнатарам роўна сто гадоў таму, у 1899-м? Князь Павал Трубяцкой. Ён, дарэчы, быў менскім губэрнатарам цэлых пятнаццаць гадоў, з 1886 па 1901. І таксама пакінуў па сабе добры ўспамін. Зь ягонай ініцыятывы пачала выходзіць газэта «Минскій Листокъ», дзе, дарэчы, упершыню быў надрукаваны «Тарас на Парнасе». Ён жа рупіўся пра пабудову ў Менску грамадзкага тэатру, які сёньня носіць імя Купалы. Адразу пасьля адкрыцьця тэатру губэрнатар падбаў і пра грамадзкі транспарт. Дзякуючы яму ў сёньняшняй сталіцы быў пушчаны першы ў Беларусі й Літве конны трамвай, чацьверты ў тагачаснай імпэрыі. Пра адно князь Трубяцкой усё ж не падбаў — менавіта пры ім у Менску адбыўся першы зьезд РСДРП, будучых бальшавікоў. Зрэшты князь, мэцэнат і эстэт, грэбаваў палітыкай. Ён, пэўна, меркаваў, што першая літаратурная газэта, дзе былі ўпершыню легальна надрукаваныя беларускія творы, першая мастацкая школа, першая публічная бібліятэка, першы грамадзкі тэатар, першая, урэшце, конка — дастатковы плён, каб застацца ў памяці ўдзячных тубыльцаў... На жаль, недастаткова. Сёньня ў Менску ўшанаваная памяць гаспадара зялёнага доміка першага зьезду партыі, а ня князя Трубяцкога.

Ягоны наступнік, граф Мусін-Пушкін, нічым асаблівым ня вызначыўся. Любіў піры, паляваньне, адпачынак на прыродзе, часьцей за ўсё пад Барысавам. Імкнуўся пасябраваць з тутэйшай арыстакратыяй. Пры ім па людзях не

**Г-к**

# ІНСТЫНКТ

Ён прачнуўся зусім рана, яшчэ да пятай гадзіны. Восеньскага сонца не было відаць, і толькі дзякуючы двароваму ліхтару яго пакой напаўняў паўзмрок, які й пазначаў абрысы рэчаў: крэсла, шафа, кампутар, кніжніца. Але найперш позірк спыніўся на тэлефоне, які прастаяў усю ноч ля падушкі – тэлефанаваньня ён так і не дачакаўся...

Ужо амаль год, як ён страціў спакой і ніяк ня мог знайсьці выратаваньня. Яе вобраз ужо стала жыў ува ўсёй ягонай істоце. Але што значыць – жыў?! Гэты вобраз панаваў над ім. Часам здавалася, што зусім блізка было да вар'яцтва – варта было толькі трапіць Ёй у поле ягонага зроку! Мала гэтага, Яна мроілася яму ў кожнай дзяўчыне, якая хоць нейкай дробязьзю нагадвала Яе – ці то пастацьцю, ці рухам, ці вопраткай.

Ён паправіў падушку – тэлефон здрадліва бліснуў дыскам і выкругленым корпусам. Гэты апарат рабіўся яму то сябрам, то ворагам. Так сталася, што ён быў амаль адным дазволеным спосабам зносінаў. Часам (калі тэлефон гаварыў «ня тым» голасам) ён гатовы быў разьбіць яго ўшчэнт, але заўсёды імчаў на ягоны сыгнал як утрапёны. Трубку ён стараўся падымаць не адразу – трэба было перавесьці дух, авалодаць голасам. Найцяжэй было справіцца з сэрцам, якое біла ў скроні адзінай думкай: «Давай гэта будзеш ты! Давай гэта будзеш ты...» І калі толькі гэта была Яна, пачынаўся сон. А можа, гэта была нейкая віртуальная рэальнасьць?

Яе вобраз перад вачыма і голас з трубкі рабілі эфэкт незвычайны. Яго пачынала закручваць, быццам у віры, зь якога нельга было вырвацца. Яго засмоктвала галавой уніз, закручвала й гнала па лініі сувязі празь мікрафон трубкі, праз драты, кандэнсатары й катушкі. У яго заплюшчваліся вочы, і ён адчуваў неймаверную хуткасьць гэтага палёту па тым шуме ў вушах, зь якім разьмінаесься зь імклівай іншамаркай. Але нёсься ён да сваёй каханай яшчэ хутчэй, далятаў і накідваўся на Яе з пацалункам, ад якога ўсё цела праціналі сутаргі...

«Але ж, не патэлефанавала», – падумаў ён яшчэ раз і зразумеў, што больш ужо не засьне. Ён пачаў разважаць пра апошнюю размову зь Ей, і сумныя думкі адразу завалодалі ім. «Згадзіся, па вялікім рахунку гэта ўсё – інстынкт», – сказала Яна яму, як толькі размова зайшла пра каханьне. Усе ягоныя аргумэнты не спрацоўвалі. «Чаму? Чаму Яна лічыць каханьне за інстынкт?» Раптам чыркнуў тэлефон. Ён зьняў трубку і за кароткімі гудкамі свайго вопытнага дапаможцы разабраў словы: «Проста Яна яшчэ нікога не кахала...»







**Алесь Станкевіч-Троцкі**

# НА ПОЎНАЧ...

Зьвярну ў якую-небудзь падваротню – там будзе студня двара, ускіну галаву і ўбачу Вялікую Мядзьведзіцу й Палярную зорку. Запішу ў памяці, дзе Поўнач – хутка выйду з падваротні й пакрочу на Поўнач. На шляху будзе стаяць афішная тумба, я ўзьлезу на яе й скокну з другога боку; на шляху сустрэнецца хата – я траплю на дах па трубе (яна будзе блага прыкручаная, але я не звалюся), я ўзьлезу на дах і накірую свае вочы ўверх – так, я ўзяў дакладны кірунак – і зьлезу па лесьвіцы. На маім шляху будзе возера, каля берагу я адшукаю човен (плаваць я ня ўмею). Я пераплыву возера. На маім шляху будзе вежа, я набуду квіток наверх, а там, уверсе, скажу працоўным гэтае вежы, што я мантажнік і павінен праверыць, як там сьцяг, мне адкрыюць дзьверы да вінтавой лесьвіцы, я ўздымуся да мачты, на якой трымаецца сьцяг, і зьлезу з паўночнага боку: я даведаюся, дзе ён, па флюгеры, які каля сьцяга (бо неба будзе ў хмарах), я зьлезу па канаце, адзін канец прыладжу да вежы, а другі – сябе за ногі і скокну, канат даўжынёю 536 мэтраў, на мэтар карацей за вежу. Унізе я адвяжу сябе і накіруюся праз парк, там я пералезу праз 15 дрэваў і 2 агароджы і выйду на кальцавую дарогу, пабач з ДАІ, я пачакаю, калі зазіхаціць зялёны, і выйду за горад. А там усё вельмі проста, там будзе лес і дарогі, так ужо лёгка... Там да Поўначы рукой падаць, да Поўначы, да полюса, дзе Палярная зорка вісіць нізка-нізка і проста-проста над галавой.

**Юры Чарнякевіч**

# АПОШНІ ЛІСТ

Вітаю цябе, мой адзіны, мой найлепшы сябра!

Ты пішаш мне і ты кажаш... Мне кажаш. А я кажу табе й сабе: зашмат ужо пісаньня на адную й тую ж тэму. Што гэта? Невычэрпная студня, у якой заўсёды ёсьцека вада? Пэўна ж, так. Бо ўвогуле, пра што можна гутарыць, калі ты ёсьць ты, і тое, пра што менавіта ты думаеш, разважаеш, застанецца з табою да скону.

Вось мы й прыйшлі да таго, з чаго пачыналі. Скон... Што ты ведаеш пра Невядомае? Дый наогул, што ты можаш ведаць... Заўтра ці нават сёньня я пайду ў сьвет забыцьця й гэтаксама, як учора, пачнецца дзень, нехта будзе сьмяяцца, а хтосьці – плакаць... Што застанецца пасьля цябе, што будзе належаць тваім нашчадкам вялікага чалавецтва? А калі ты паспрабуеш уявіць тое новае жыцьцё, якое цябе чакае ды пачнеш маляваць сьветлыя дні й найкарацейшыя ночы – дык зробіш памылку. А можа, яе зраблю я. Ці ж ня ў гэтым справа, ці ж ня ў гэтым сэнс усяго нашага існаваньня ў сьвеце маркоты й нуды?

Я разумею так. Таму – зразумей. Хаця можна выказацца зусім інакш.

Хто ня бачыў птушкі? Чалавек, які ўсё сваё жыцьцё, нядоўгае жыцьцё на плянэце з назвай Зямля меў мару, летуценьне –адчуць імгненьне вольнага палёту, лётаць – як птушка. І што? Мара зьдзейсьнілася? Не! Ніколі. І ў бліжэйшы час наўрад ці зьдзейсьніцца. Бо чалавек пайшоў найлягчэйшым шляхам: лётаньне ўвасобілася толькі ў чарговыя прыстасаваньні для палёту...

Але ж, чалавек, ты можаш лётаць, можаш! Ды ніхто цябе не навучыў, не паказаў, як гэта зрабіць, а сам ты ўжо ня ў стане пераадолець страх перад сабой, выйсьці насустрач бездані, перамагчы яе сам-насам...

Чаканьне твайго палёту – гэта слодыч, гэта нэктар, які вось ужо шмат стагодзьдзяў п'юць іншаземцы іншаплянэтнікі.

А калі ж усё-ткі, урэшце рэшт, узыдзе сонца й неба, тое неба, якое зусім нядаўна здавалася блакітным, пачне ператварацца ў чорнае зь незнаёмым твайму веку зоркамі ці зайграе ня бачанымі дагэтуль ніколі колерамі – дык не пужайся, не пужайся, мой немаўлятка, і ўспомні, што ты – толькі кропка, толькі пясчынка, якая блукае ў вялікім, не-бязьмежным Сусьвеце.

Пішы!

І – бывай!

**Ірына Цень**

**КРЫК ПАКУТНІЦЫ-ДУШЫ**

– Маё жывое цела замураванае ў запаленай сьвечцы. Гэта зьдзек?

– Не, гэта нірвана.

– Знарок мне не даюць H2O?

– Так, ведай, як паліць маю душу пачуцьцё каханьня, як яно трашчыць і ўспыхвае, як пячэ і запякае маю кроў. Ты прымусіла мяне выпіць усю ваду, нібы асалоду. Але гэта быў падман, які хоць на час патушыў полымя маіх пакут.

Я буду піць той воск, што сьцякае са сьвечкі, бы тваю кроў, апаленую маімі ранамі, пакрытую маімі болькамі. Ты – цень, што вісіць над душой анёла і паціху адрывае пер'е зь яго белых, «чыстых» крылаў.

Ненажэрная!..

– Я – пачвара, бо замураваная, а ты – кандэлябар, што ўчапіўся ў маю філязофію кіпцямі жарсьці. Твая істота –загагуліна, як і твой лёс. Ты проста забыўся сьцягнуць маску са свайго нахабнага і самаўпэўненага шара, аздобленага шэра-зялёнымі вачыма і нюхам, што чуе толькі сьмерць, маю сьмерць...

– Брэшаш! Ты не схацела стаць маёй палюбоўніцай, але ўсё ж дасталася мне, хоць я не магу зьесьці цябе залпам. Твая філязофія нішто бяз Фройда і Ніцшэ. Ты – дрэнь!..

– Я адчуваю калючае зьліцьцё з паветрам. Няўжо так цяжка паўсюль? Аднак я буду змагацца, бо толькі мною ты наясіся, а іншых уплесьці ўсіх разам у свой трыбух табе нічога не каштавала... Пальцы моцнай рукі, але не тваёй, а сапраўднага мужчыны, што пяшчотна ахапілі сьвечку – мяне.

Цяпер мы разам. Пах сьмерці перайшоў на твае брудныя пачуцьці. Бывайце, старыя лахманы! Мы дома!

А Ў НАС ДОМА...

Неба, прастора... А пад імі, на зямлі, маё мёртвае цела. Па адзін бок ад яго талерка зь сьлязьмі, па другі – талерка з пакутамі. Наспытаўшыся пакутаў, людзі шчэмяцца спатоліць іх сьлязьмі. Аднак каб сягнуць маёй «мерцьвячыны», ім прыйдзецца яшчэ шмат частавацца нясмачнымі «прысмакамі» і капаць дарогу ў вечнасьць.

Адсутнасьць дамоў, адсутнасьць вачэй, адсутнасьць развагаў пра небыцьцё. Пустка. Толькі сьляды гракоў робяць цераспалосіцу на мёртвай падлозе. А Ўсход і Захад скручваюць яе, нібы непатрэбны ім дыван.

Пакуль народ мучыцца Сызыфавай працай, мой труп расплываецца за межы сваёй краіны, робіцца мяккім, прыдатным для беларускай радасьці і дабра, утварае новую падлогу, пакрытую вечным небам, для сапраўдных беларусаў. Гэта нашыя мары, што зьмешчаныя пакуль у сэйфе, ключ ад якога – сьвядомасьць. Яна яшчэ толькі робіць шчылінкі на пакоцанай, але трывалай сьцяне няведаньня, бы куraня, якое вось-вось павінна зьявіцца зь яйка.

Мая «мерцьвячына» – гэта вэлюм, на якім нічога ня можа йснаваць доўга. Толькі тысяча ці мільён слаёў такога вэлюму здольныя вытрываць усё і даць адпор...

P.S. Зьбіраю вэлюм, каб застацца дома.

*Сто твораў мастацтва XX стагодзьдзя*

# Уладзіслаў Стрэмінскі. Сонца ў заплюшчаных вачах

... Ён паходзіў са старажытнага роду гербу «Стрэмя». Паводле легенды, наданьне «Стрэмя» зьвязанае з геraічным учынкам аднаго з продкаў-рыцараў, калі падчас сечы конь ваяра быў забіты, а зброя страчаная. Тады рыцар бараніўся толькі ўломкам стрэмя і выйшаў пераможцам...

Пасьля цяжкога раненьня й інваліднасьці Стрэмінскі пакінуў вайсковую службу і абраў Мастацтва — як паратунак і як спосаб жыцьця. Ягонае навучаньне ў Маскоўскай вучэльні жывапісу, пластыкі й дойлідства перарывае рэвалюцыя, і ён вяртаецца на Бацькаўшчыну, у Беларусь...

Як і шмат хто з авангардыстаў пачатку XX ст., Стрэмінскі прайшоў складаны шлях ад выяўленчасьці, апавядальнасьці да «чыстае формы». Перад 20-мі гадамі ён, як і Шагал, і Малевіч, імкнуўся абапірацца на знаходкі постімпрэсіяністаў, быў захоплены Сэзанам, пазьней, да сярэдзіны 20-х, распрацоўваў ніву кубізму, адначасова пад уплывам супрэматыстаў рабіў архітэктанічныя кампа-зыцыі, але найгалоўным ягоным творчым плёнам стаў УНІЗМ, уласны стыль, тэарэтычна й практычна абгрунтаваны ўжо на мяжы 20-х і 30-х гадоў...

Адразу па ўтварэньні БССР, узімку 1919 году, у Менск прыяжджае мастацтвазнаўца Дзьмітрыеў, прызначаны на пасаду ўпаўнаважанага ў справах аховы помнікаў. Менавіта ён першы шырока дасьледаваў стан і вартасьці помнікаў па ўсёй Беларусі. Неўзабаве Дзьмітрыеў узначаліў аддзел выяўленчага мастацтва, дзе адразу разгарнуў кіпучую дзейнасьць, стварыўшы мастацка-вытворчыя майстэр-ні. Ён стаў прапагандыстам «масавага камунальнага мастацтва». Ягоныя паплечнікі — Цэханоўскі і Стрэмінскі — былі знаёмыя зь ім яшчэ зь Петраграду. На іхную думку, менавіта Менск мусіў стаць цэнтрам гэтага «сусьветнага» рэвалюцыйнага мастацтва будучыні.

У выніку імклівага наступу польскіх войскаў урад БССР мусіў эвакуавацца ў Бабруйск. Тут Дзьмітрыева на пасадзе загадчыка аддзела выяўленчага мастацтва зьмяніў Цэханоўскі, які наладзіў «Першую дзяржаўную выстаўку рамесьнікаў і мастакоў», у якой чынны ўдзел браў і Ўладзіслаў Стрэмінскі, і, дарэчы, Язэп Драздовіч. Слова «мастакі» арганіза-тары невыпадкова паставілі другім, бо самі мастакі, у пераважнай большасьці, разумелі свае задачы ўтылітарна. Крыху пазьней у Бабруйску была праведзеная буйная імпрэза: лекторый, дыспуты й выстава ў гарадзкім парку пад назвай «Рэвалюцыйнае мастацтва». Менавіта ў гэтай сваёй дзейнасьці, — стварэньні вытворчага мастацтва, якое павінна альбо агітаваць, альбо пераўтварацца ў прамысловы дызайн, — бачылі мастакі поле для прыкладаньня ўласных сілаў. І гэтае мастацтва мусіла йснаваць паўсюдна вакол чалавека, зьмяняючы ягоную этыку, і, бадай, псыхіку...

У 1920 годзе ў Смаленску былі створаныя мастацка-агітацыйныя майстэрні Палітычнага ўпраўленьня Заходняй арміі. Зь імі ў тыя гады актыўна супрацоўнічалі гэткія дзеячы Смаленскага саюзу работнікаў мастацтва, як рэжысэр Эйзэнштэйн, вядомы беларускі мастак тэатру Марыкс, графік Цэханоўскі і шмат іншых, пераважна родам зь Беларусі. Менавіта ў гэткім асяродзьдзі апынуўся й Стрэмінскі. У ліпені майстэрні пераехалі ў ягоны родны Менск, дзе, апроч іншага, мастакі расьпіс-валі агітцягнікі перад адпраўкаю іх на фронт. Аднак неўзабаве, увосені, яны вяртаюцца ў Смаленск, дзе пасьля Рыскае дамовы майстэрні расфармавалі. Аднак досьвед манумэнтальнае прапаганды, кантакты з прафэсійнымі мастакамі, рэжысэрамі, дэкаратарамі, досьвед паўставаньня новае Беларусі застаўся са Стрэмінскім... Зрэшты, і сам ён на тры гады застаўся ў Смаленску, час ад часу наяжджаючы ў Віцебск, дзе шчыльна сыйшоўся з Малевічам. У Смаленску, з 1920 да 1923 ён, разам са сваёй жонкаю, Кацярынаю Кабро (немкай з паходжаньня) ачольваў уласную мастацкую студыю. Сюды, да іх, прыяжджаў зь лекцыямі і Казімер Малевіч. Сярод вучняў Стрэмінскага і Кабро была й Надзея Ходасевіч, у будучыні француская мастачка Надзя Лежэ, якая, дарэчы, пакінула ўспаміны і пра гэтых сваіх настаўнікаў...

Праз Менск, разьвітаўшыся зь ім назаўжды, Стрэмінскі выехаў у Вільню, што як магнэсам цягнула да сябе раскіданых войнамі па сьвеце творцаў. Расьцярушанае мастацкае жыцьцё пакрысе ажывала тут. Аднак тут Стрэмінскага, які ўжо быў прышчэплены рэвалюцыянізмам, напаткала расчараваньне: у Вільні не было таго віру, што на Ўсходзе — у Менску, Віцебску, Смаленску, нават у Бабруйску... Тут панавалі кансэрватыўны нацыянальны рамантызм і мэтр Рушчыц. Сюды зьяжджаліся не імпэтныя экспэрымэнтатары, а акадэмісты, накшталт Сьлендзінскага, Яманта, Шчаснага-Каварскага. Праўда, тут існавала Віленскае аб'яднаньне пластыкаў, але яно было надта пярэстым. Тым часам у Варшаве ўтварылася аб'яднаньне «BLOK», якое абвесьціла пра «канец фармалізму» і адкрыцьцё новых гарызонтаў у галіне «чыстае формы». Гэта для Стрэмінскага было знаходкаю.

Пасьля доўгіх ваганьняў і вырашэньня асабістых праблемаў, Стрэмінскі з жонкаю зьяжджае ў Лодзь, дзе, на думку «блёкаўцаў» існавала тое шырокае заводзка-фабрычнае асяродзьдзе пралетарыяту, у якім яны й бачылі сваю галоўную аўдыторыю. Тут, у Польшчы, у прамысловым цэнтры, гэтак непадобным да роднага Менску альбо да блізкае Вільні, Стрэмінскі распачаў сваю тэарэтычную дзейнасьць. Найперш, захоплены прыкладам Малевіча, які ў 1927 годзе выпусьціў у Нямеччыне сваю грунтоўную кнігу «Die gegenstandlose Welt» (Беспрадметны сьвет), якая адразу апынулася ў фокусе ўвагі эўрапейскага мастацтва й крытыкі, ён піша ўласную кнігу. Яму карцела зьдзівіць сьвет сваім адкрыцьцём УНІЗМУ. Кніга «Unizm w sztuce» (Унізм у мастацтве) выйшла ў Лодзі ў 1928 годзе і прынесла яму пэўную славу ў мастакоўскіх колах Польшчы. Праз тры гады ён разам з жонкаю выдаў наступную працу — «Прасторавая кампазыцыя».

Унізм, вынайдзены Стрэмінскім, вынікае зь перакананьня ў тым, што ўсе формы на плоскасьці палатна суіснуюць у адзінстве (уніі), больш за тое, яны зьліваюцца з палатном у адзінай цэлай двухмернай прасторы. Зрэшты, у разуменьні гэтага няма нічога рэвалюцыйнага. Папросту да Стрэмінскага ніхто не ўспрымаў гэта за мэту. Але ён адмыслова падпарадкаваў свае пошукі гэтай ідэі. У ягоным разуменьні элемэнты карціны мусяць быць «узаемна нэўтральнымі», «дынамізм ня ёсьць жывапісным элемэнтам». Гэта азначала, што катэгорыі часу й руху мусяць быць вынятыя з уласна жывапісу.

На практыцы ў Стрэмінскага гэта выглядала як тоеснасьць найпрасьцейшых абстрактных элемэнтаў, якія раўнастайна й бесканфліктна запаўнялі ўсю прастору палатна. А ў дадатак усе элемэнты часьцяком злучаліся ў непарыўную сувязь альбо пра-мымі, альбо пакручастымі лініямі, сьцьвярджаючы адзінства пісягу (жывапісу) і крэскі (графікі).

Апроч чыста ўністычных кампазыцыяў, Стрэмінскі пісаў таксама і з натуры. Напачатку гэта былі краявіды, пераважна марскія й горныя, пасьля партрэты. Тут Стрэмінскі міжволі мусіў адыходзіць ад сваіх жорсткіх правілаў, але бясконцая плынь фантазіяваньня прыбівала яго да калажу: сялянка пераўтваралася ў бульбіны, жнеі — у лісьце канюшыны, а збожжа ў гатовы хлеб. Як тая збажына, якую мы бачым, што ў сьведамасьці мастака ўжо гатовая пераўтварыцца ў лусту духмянага хлеба, гэтак і творчасьць Стрэмінскага надоўга забягала наперад, пакідаючы ззаду сьвет, што яго атачаў на зямлі...

На зямлю ён спусьціўся з пачаткам другое сусьветнае вайны. Першае, падставовае ягонае жаданьне было ўбачыць сваю радзіму. Да Менску не прапусьцілі. Ён апынаецца ў Вялейцы. Ён гатовы тут застацца, ён хоча быць са сваімі. Знайшлася праца — Стрэмінскі афармляе горад да чарговае гадавіны Кастрычніка. Яго тут не зразумелі. Часы незваротна мінаюць. Ён вымушаны йзноў бегчы. У Вільню! Але Вільня ўжо ня тая, Вільня — літоўская. Давялося вяртацца на Захад, у Лодзь — цяпер ужо Нямеччыну.

Уражаньні ад ваеннай віхуры леглі ў аснову ягоных вялікіх графічных цыкляў: «Заходняя Беларусь», «Высылка», «Грамадзянская вайна» ды іншых.

Па вайне, у радасных прадчуваньнях абнаўленьня, Стрэмінскі яшчэ раз упарта імкнецца знай-сьці апраўданьне ўнізму. Калі Далі зазначаў, што розьніца паміж ім і сюррэалістамі палягае на тым, што сюррэаліст — гэта ён, дык у дачыненьні Стрэмінскага можна сьцьвердзіць адназначна, што ён — гэта ўнізм. Астатнія прыхільнікі ўнізму расталі недзе яшчэ перад вайною. Такім чынам — новы ўздых. Новае насычэньне. Ім сталі афтальмалягічныя экспэрымэнты, на падставе разнастайных эфэктаў, што ўзьнікаюць у нашых вачох, калі мы іх моцна заплюшчваем, альбо калі мы глядзім праз павекі на сьвятло. Ізноў жа ўсё вельмі проста. Але менавіта гэты мастак першым зьвярнуўся да гэтай, зусім не абстрактнай, а фізіялягічнай зьявы, якая стала падставаю творчага мэтаду — працягу ўністычнае тэорыі.

Твор «Сонца ў заплюшчаных вачах», напісаны ў гэты пэрыяд «сонечнага» ўнізму, застаўся адным з найбольш дасканалых твораў Стрэмінскага. На той час ягоны лёс нібы ўсьміхнуўся, расквеціў ягонае жыцьцё зыркімі промнямі славы й пось-пеху — ён кіруе сваёй майстэрняй у Вышэйшай школе мастацтваў у Лодзі, дзе стаў і прафэсарам, ягоная калекцыя сучаснага мастацтва (самая вялікая ва Ўсходняй Эўропе), якую ён зьбіраў усё сваё жыцьцё, атрымала статус дзяржаўнага музэя, ён выконвае шэраг замоваў на росьпісы будынкаў. У бляск гэтых промняў цяжка ўжо паверыць. Яму хочацца заплюшчыць вочы. Як у дзяцінстве. Сонца на ягоным палатне ператвараецца ў зіхоткую масу плямаў, нібы на мапе сьвету. Плямы — краіны, пра якія мроілася ў дзяцінстве, краіны, якіх не пабачыў, краіны, якіх не магло быць, зьнітаваныя ў адно, як нашая памяць ці пярэсты глёбус.



... Сонечны ўнізм быў нядоўгі, прывідны, як мільгаценьне ў замружаных павеках. Польшча, бальшавіцкая Польшча, нічога не даравала яму пры жыцьці. Ні ягонае даваеннае «левізны», ні ягонай беларускасьці, дзякуючы якой яго не закранулі ў вайну немцы, ні ягонай паваеннай «правізны» і зусім ужо недарэчнай прапаганды авангарду. Ён сыйшоў ціха, зацкаваны й безнадзейна хворы чалавек, на вачах якога зьнішчалі плён ягонага жыцьця: музэй, школу, палотны й фрэскі. Ён памёр на Каляды, у адзіноце, нястачы й холадзе... Сярод таго, што ацалела — трапяткі вясёлкавы калейдаскоп — «Сонца ў заплюшчаных вачах», якое сёньня займае пачэснае месца ў Нацыянальным музэі ў Варшаве.

**Сяргей Харэўскі**



**Уладзіслаў Стрэмінскі** (1893, Менск – 1952, Лодзь, Польшча), жывапісец, графік, пэдагог, калекцыянэр. Пасьля гімназіі скончыў Маскоўскі кадэцкі корпус, пасьля Вышэйшую ваенна-інжынэрную вучэльню ў Пецярбурзе. У 1914 годзе на фронце быў зьнявечаны. Вучыўся ў Маскоўскай вучэльні жывапісу, пластыкі й дойлідства. З 1945 прафэсар Вышэйшае школы мастацтваў у Лодзі.

### Творы, прадстаўленыя ў папярэдніх нумарах «НН»:

1. Фэрдынанд Рушчыц. Зямля.
2. Мсьціслаў Дабужынскі. Віцебск. Лесьвіца
3. Марк Шагал. Прамэнад
4. Ільля Рэпін. Беларус
5. Марк Антокальскі. Помнік Кацярыне
6. Вітальд Бялыніцкі-Біруля. Блакітная капліца
7. Хаім Суцін. Паж
8. Казімер Малевіч. Чорны квадрат
9. Язэп Драздовіч. Пагоня Ярылы
10. Валянцін Волкаў. Менск. 2 ліпеня 1943 году
11. Манумэнт Перамогі
12. Помнік Леніну ў Менску
13. Пётра Сергіевіч. Шляхам жыцьця
14. Аляксей Глебаў. Францішак Скарына
15. Міхал Філіповіч. Бітва на Нямізе
16. Лявон Вітан-Дубейкаўскі. Касьцёл Пятра і Паўла ў Дрысьвятах
17. Лявон Тарасэвіч. Бяз назвы
18. Ян Булгак. Выгляд з Зарэчча
19. Іосіф Лянгбард. Менская опэра
20. Аркадзь Астаповіч. Дворык
21. Клаўдзі Дуж-Душэўскі. Сьцяг
22. Прывакзальная плошча ў Менску
23. Станіслаў Жукоўскі. Інтэр'ер
24. Пакроўскі сабор у Баранавічах
25. Міхал Станюта. Партрэт дачкі
26. Яўхім Мінін. Усьпенскі сабор у Віцебску
27. Ізраіль Басаў. Успамін
28. Віталь Цьвірка. Ганча – партызанская зямля
29. Леанід Шчамялёў. Нацюрморт
30. Міхал Рагалевіч. Партрэт

**Антон Тарас**

# ПРАСПЭКТ СКАРЫНЫ

Праспэкт Скарыны сустрэў нечаканага начнога вандроўніка сырэнамі машын хуткае дапамогі, якія белымі, адпаліраванымі да бляску спрытнымі мэханічнымі шашалямі пранесьліся побач з самотнай джынсавай постацьцю ў накірунку далёкае ваеннае часткі, палохаючы паветра нявЕтлівымі пошугамі моргалак, адганяючы нячыстых духаў урбаністычнае Фэміды адвечным сымбалем Сонца, накрэсьленым чырвонаю фарбай на псэўдахітынавай абалонцы цыліндрычнага страўніка – сырэнамі, якія зьвяшчалі аб пасьмяротным расфармаваньні 33-га Менскага гарнізону, казармы якога яшчэ палалі здрадлівым полымем – у гэты раз яно, полымя, чамусьці, стала на бок Miessmacher und Kritikaster, якія прадаліся захаду за пустыя абяцанкі. Менавіта гэткі «прадажны» й рушыў зараз па праспэкце ўбок пляцу Незалежнасьці, менавіта ён глядзеў зараз абыякавым, стомленым позіркам на ўвесь гэты матарызаваны, нізкааплочваны – але адданы – мэдпэрсанал, які дарэма сьпяшаўся той халоднай ноччу ў паўночна-усходнім накірунку, менавіта яго клікалі Зьміцер і менавіта ён спаліў «к е…не фене» друхлыя вайсковыя пабудовы, узьведзеныя яшчэ ў той «канцэнтрацыйна-абозны» пэрыяд, калі хлеб давалі па картках і голас Юрыя Левітана ліўся над новым архітэктурным краявідам надта ўжо састарэлага гораду. Зьміцер не сьпяшаўся («Як можна сьпяшыць, калі стаіш на месьце? Лева. Права. Права-лева-права… радыкальна, або ультра. Х-ха! Хіба мы на плоскасьці жывем? Гіганцкі шар-кропка, пункт на бясконцым белым мальбэрце ў мастэрскай Бога. У точке перасечаньня лініяў… Х-ха! Чаму няма вэртыкальнага разьвіцьця? Бедны Барыс Натаныч…»). Разьвітальны позірк ўсьлед машынам хуткае дапамогі, апошнія зацяжкі (нейкія танныя італьянскія цыгарэты) – і зноў у шлях. Чаму менавіта на Незалежнасьці? Любімае месца каханкі, надзвычай сымбалічная назва, экспэрымэнт кшталту «на якім кілёметры мяне возьмуць?», даніна звыкламу ладу жыцьця, пешым вандроўкам, ненавіснаму бэтоннаму монстру, які гвалтуе думкі, які інвэртуе пачуцьці, верныя дрывасекі якога штодня прарубаюць шырокія просекі праз абпаленае інфармацыйным выбухам цела ляснога запаведніку «Сьвядомасьць», які не дае ўбачыць ні ўсход, ні заход – хіба што толькі сымбалічны гашпітальерскі… Люк… прыпынак… Дзіцёнак плакаў жалобна. Зьміцер мог бы, забыўшыся на сумленьне, не заўважыць, праплыць, прапаўзьці побач, зрабіцца пурпуровай птушкай – вольнай, ды толькі зь гірай на шыі – каб толькі ня бачыць і ня чуць, уляцець; але ён пачуў. І ўбачыў. «Дзеці не вінаваты! – крычаў ён, – Дзеці – не!..» Не вінаваты. Холадна, гучна, яскрава, нібы просты куханны нож, які толькі што прымаў удзел у няўдалым эгаістычным самазабойстве пакрыўджанага пяцікласьніка, трошкі жахліва, трошкі задавальна, голасам старога вэтэрана часоў ВОВ альбо нават ВОСР.

Не вінаваты, ня мог ён моўчкі зважаць на тое, што на першым паверсе камфартабэльнага магільніку нявыключаным тэлевізарам паказвала плоскае акно аднапакаёвае кватэры. Бацькі зьбівалі дачку. Маці трымала яе адной рукой, заламваючы слабыя дачушкіны рукі за сьпіну, зьдзіраючы вострымі фалічнаагрэсіўнымі пазногцямі скуру з лакцёў, спрабуючы вольнай рукой затыркнуць скрыўлены жахам рот, але кожны раз сустракаючы потнай ружовай скурай новыя рэкі сьліны, новыя гукі, жалобныя й бязьлітасныя ў сваёй праўдзівасьці й безвыходнасьці, якімі дзяўчо адказвала на ўсё новыя й новыя ўдары бацькавай яблыкавай стусінай. Хутка гэтыя гукі прыпыніліся, прыпыніўся й час, і нават горад на імгненьне замёр, напужаны паўчалавечым воем падпольнага салдата Зьміцера. «Дзеці не вінаваты, с…кі ё…аныя! Не вінаваты!» –словы былі гэткімі, але іх немагчыма было ўжо разгледзець праз сьвежую кроў, праз жорсткасьць людзкога катаваньня, якое напоўніла цеснае памяшканьне маленькае аднапакаёвае кватэры, падобнае на тысячы гэткіх жа кватэраў, калянізаваных людзьмі паўсюль, ад краю да краю нашае слаўнае сталіцы. Зьміцер забіў іх так, як яго вучылі забіваць здраднікаў, нахабных трусьлівых шэсьцёрак, якія ідэалы прамянялі на штосьці цьвёрдаматэрыяльнае, што можна зьесьці, альбо прадаць, альбо сапсаваць і выкінуць, якія самі мусілі быць вырваны, выкручаны й выкінуты з пэрспэктыўнага грамадзтва будучыні. Гэтак вучылі. Забіваць. Забіваць. Адпадкі, вязьні віртуальнае свабоды, не-залежнасьці, змагары за Эўропу без дыктатуры, за Эўропу, якую ніхто зь іх – падпольшчыкаў, вальнадумцаў, якія заблыталіся й апынуліся ў палоне ўласных нетрывалых сыстэмаў ідэальнага ўсеагульнаграмадзкага дабрабыту – гэтак і ня бачыў, і ня марыў нават убачыць, салдаты ў самаробнай парванай сынтэтычнай уніформе, са зброяй, падобнай на цацачную, зробленай у кустарных майстэрнях, на сёньняшні дзень ужо зачыненых, прафэсійныя забойцы, якія адточвалі сваё майстэрства злосьці на саміх сабе, на сваіх блізкіх, на вулічных сабаках, на асобах бяз сталага месца жыхарства, на выдуманых ворагах і на ворагах сапраўдных, на ворагах фызычных, на ворагах ідэалягічных і на ворагах агульначалавечых, на ворагах, на ворагах гэтае малое запужанае дзяўчынкі, на яе бацьках – былых інтэлігентах, настаўніках, што апусьціліся на самае дно з прыходам новае прагрэсіўнае ўлады. Зьміцер стаяў з акрываўленым калом у руцэ пасярэдзіне пакою, цяжка дыхаючы, стомлены, зьнямелы, пазіраючы некуды ўдалечыню, у пункт перасечаньня сваіх прыдуманых рысаў, вольны ўрэшце каб пайсьці. Халодная сьценка выпячвалася блёклымі шпалерамі, выгіналася, падтрымліваючы беднае дзяўчо. Бедная, бедненькая… Чаму ты нарадзілася тут, у гэтай краіне, нашто ты ўвогуле абрала для жыцьця гэты сьвет? Няўжо на небе не знайшлося для цябе месца, няўжо Божа Магутны – Уладар Сусьвету насамрэч нядобры, злы, гвалтоўны, эгаістычны графаман, няўдалы стваральнік існага, бачнага й нябачнага, бязглузды асэнізатар –зьбіральнік і сартыроўшчык экскрэмэнтаў, які ня любіць і ня ўмее любіць, хіба што тое лайно, якое сам і стварыў, які дазволіў нафце й электрычнасьці зрабіцца галоўнымі каштоўнасьцямі, які ня змог пазбавіць людзей ад ідэяў прыярытэту інфармацыі, які даў магчымасьць двум дэгенэратам – бацькам зьбіваць дачку: за што? – за тое, што тая прынесла параненае, скалечанае лёсам, блахастае кацяня з напужанымі вачыма ў галотную, вільготную кватэру на першым паверсе дому, чые вокны глядзяць у твар галоўнае артэрыі гораду! «Дзеці не вінаватыя, не вінаватыя…» – мармытаў у рытм цяжкіх крокаў баец падпольнае малаколькаснае арміі, якая ў хуткім часе ўсё адно мусіла расфармавацца, альбо страціць лідэра і – зноў такі – распасца, альбо быць раздушанай магутным ботам сыстэмы, альбо зрабіцца часткаю вэртыкалі. Зьміцер і не заўважыў, як пачаў бегчы, хутка бегчы, гэтак хутка, як ня бегаў дагэтуль ніколі ў сваім кароткім мурашыным жыцьці, бадай што толькі пры пагроме Ўсходняга цэнтру, калі «блакітныя» спалілі дасканала закансьпіраваны інфармацыйны цэнтар – склеп у лесе, нашпігаваны электронікай, калі «блакітныя» забілі іхнага настаўніка Кунг-Фу – неаднаразовага пераможцу міжнародных баецкіх спаборніцтваў, калі «блакітныя» – сьмярдзючыя фараоны – зьнішчылі ўнікальную бібліятэку анархісцкае літаратуры й калі сам Зьміцер ледзь не згарэў у пекле падпольнае друкарні, якая прыхавалася глыбока пад зямлёй, каля выйсьця ў цэнтральны калектарны шлях. Зьміцер бег, і мармытаў адзін і той самы выраз – «дзеці…», і бачыў адную й тую ж кроў на сваёй асфальтавай уніформе, і чуў адное й тое ж полымя над далягладам – полымя над падпаленымі ім жа казармамі 33-га Менскага гарнізону… не… ня тое… Тое было даўно, колькі гадзінаў таму, тое было на паўночным усходзе, а гэта – сэрца. Пляц Незалежнасьці. Над мостам – сьвітанак, сьнег, белае неба да краю, белая вежа пэдагагічнага. «Якая сука узьняла Сонца?» Не, Зьміцер, гэта ня Сонца, гэта іржавая куля ў тваю сьлізкую, запацелую патыліцу, куля, якую выпусьціў са свайго імяннога пісталету Сяржук, яшчэ адзін падпольшчык, гэткі ж безнадзейны баец, як і ты, па горла ў крыві, злы, стомлены, састарэлы раней за адведзены яму на маладосьць тэрмін, яшчэ адзін сьведка. Вось ляжыць загад і аб ягонай ліквідацыі. А праз мост едзе першы тралейбус…

**Ігар Сідарук**

# АЎТОБУС КОЛЕРУ БЭЗ

*Апавяданьне*

— Гамон, мужыкі! Залазьце ў аўтобус, паедзем.

Мужыкі, што сьвежавалі ў двары забітае парася, змрочна азірнуліся. Пры дарозе стаяў памяты, пашкамутаны «ПАЗік» нейкага дзіўнаватага бэзавага колеру. Адкуль і калі ён пад'ехаў — ніхто нават не пачуў. У кабіне сядзеў невыразнага, зусім бляклага выгляду кіроўца ды мэтадычна кідаў сабе ў рот з пачка кукурузныя палачкі.

— Куды паедзем? — амаль што ашалела запытаў у яго гаспадар дворыска, машынальна пераварочваючы парсючка за заднія лапы.

— Туды й паедзем, — кінуў чарговую палачку ў рот кіроўца. —Арыштаваныя вы, ясна?..

— Чааго?! — аж узьняліся ў поўны рост мужыкі ды, грозна сьціскаючы нажы-цесакі, пасунуліся да бэзавага аўтобусу.

— А ну, кацiся адсюль, пакуль колы цэлыя!

— І морда!..

— Бач ты, паскуда!

Кіроўца спакойна скамячыў пусты папяровы пачак, шпурнуў яго ў гародчык, абнесены акуратным штыкетнічкам.

— А вы мне не пагражайце. Я пры выкананьні... А вам за гэта... Самі павінны ведаць. Мусіць жа, не дурныя?..

Мужыкі спыніліся, неяк незаўважна сьцяліся, пасунуліся бліжэй адзін да аднаго. Насуплена пазіралі на кіроўцу:

— Слухай, едзь адсюль, га?..

— Не да цябе зараз, хлапак... Дзела ў нас...

— Ага, умантораў бы ты па-добраму. Па-харошаму просім.

— А мне вашыя харошыя словы да... — нечакана пачаў наліваццa барвіньнем той. — Гамуйся, бляха, у аўтобус, каму сказана. Ці вам спэцыяльнае запрашэньне трэба?! То зараз вылам! Аж уваччу прасьвятлее!.. Дубаломы!

У куточку вуснаў кіроўцы выступіла белаватая пена, зьмяшаўшыся з пылком ад кукурузнай палачкі. Здавалася, яшчэ ймгненьне, і ён пацягнецца за пазуху па якінебудзь кастадробны парабэлюм. Аднак кіроўца, відаць, ведаючы пра свой недахоп, толькі сьцер з роту тыльным бокам далоні белую пенку, злосна зіркаў на мужыкоў.

А мужыкі ўсё тапталіся поплеч адзін з адным.

— Хто сказаў?.. — раптам вырвалася ў маладзейшага.

— Што — хто сказаў? — як бы не зразумеў кіроўца.

— Што арыштаваныя мы?

— А!.. — увесь выгляд кіроўцы ўжо выказваў абсалютную абыякавасьць. — Загад...

— Чый загад? — упарціўся малады тубылец.

— Гасударственны, блядзі! — раптам зароў здыхляк у кабіне, і на губах у яго зноў запенілася.

— Ты не рычы, не рычы... — усё ж з асьцярогаю сьцепануў плечуком другі мужычок. — Ты нам, як што якое, дакумэнт пакажы.

— Які дакумэнт?! Я табе пакажу дакумэнт! — яшчэ страшней роў кіроўца аўтобусу. — Ты ў мяне гэтыя дакумэнты да сьмерці зьбіраць будзеш!

— Ды што мы такое зрабілі, каб нас раптам вось так проста нізавошта арыштоўваць?.. — неяк крыху назад падаўся гаспадар, ня так упэўнена, як раней, сьціскаючы ў руцэ цясак. — Калі за парсючка, дык гэта наш, собскі...

— Не за парсючка, не за парсючка, — крывавата ўсьміхнуўся кіроўца. — Тут такое дзела, што... Карацей, сьвінячая ваша справа. Так што гамуйцеся ў аўтобус, рабяты!

— Хрэняцтва нейкае, бляха! — пляхнуў кепкаю аб зямлю маладзейшы. — Паехалі, разьбяромся!

Мужыкі яшчэ нейкі час пастаялі, падумалі, а потым, зь нейкім жалем ды разгубленаю шкадобаю азірнуўшыся на распластаванага парсючка, маўкліва палезьлі ў аўтобус.

Дзьверы з агідным рыпам зачыніліся. Стары, дашчэнту зношаны маторчык ПАЗіка чмыхнуў, чвэхнуў, кіроўца з пачуцьцём выкананага абавязку цвыркнуў сьлінаю праз прачыненую фортку ды зрушыў сваю машыну зь месца.

Аўтобус ад'ехаў зусім недалёка ад вёскі, як раптам, стрэльнуўшы, спыніўся на ўскрайку жытняга поля. Пасярод купіны немагчыма-сінечных валошкаў хлапец ды дзяўчына займаліся... Карацей, нераздымная пара маладзёнаў любілася. І любілася моцна, гучна, з захапленьнем ды жарсьцю. Кіроўца рэзка заглушыў матор, выскачыў, бразнуўшы дзьверцамі, на дарогу.

— Імем закона!.. прад'явіце ўдаставярэньні!

— Якія ўдаставярэньні?! — віжам падхапіўся з маладзіцы голы хлапчыска. — Хто вы такі?

— У аўтобус! Хутка! Абое!!! — раптам храснуў яму кулаком па твары лядашчы кіроўца.

— Які шчэ аўтобус?.. Хто вы такі, я ў вас пытаю?! — не чакаючы такога скруту, нічога не разумеючы, размазваў тонкую крывавую юху па падбародзьдзі хлопец.

— У вось гэты самы! Вось гэты! — проста пляхаў па мэталёвым баку ПАЗіка ягоны вадзіла.

— Ды што вы такое сабе дазваляеце?! — ускапілася з валошкавага кіліму й маладзіца, падграбаючы пад сябе параскіданае адзеньне. — Хто вам даў права?!.

— Ха! Хто даў права!.. — ашчэрыўся кіроўца. — Той, хто даў, той і ўзяў!.. — Крыху не да месца, аднак рашуча зноў пляснуў па бэзавым баку аўтобуса ён. — Давай, давай. Апранайся! Там, — ён выразна ўзьнёс палец угору, — чакаць ня будуць.

— Вы, вы... — пад напорыстасьцю гэтага нізкарослага азызы не знаходзіла слоў дзяўчына. — Мы будзем на вас скардзіцца!..

— Ага, — стомлена-згодна хітнуў галавой кіроўца. — Паедзем. Там, грамадзяначка, і паскардзіцеся...

— Хто... — зноў быў завёў сваё хлапчыска, ды кіроўца раптам выкруціўся цэпам ды згроб усёй пяцярнёю ягоныя валасы на карку:

— Яшчэ хочаш, поскудзь мочаная! Я табе пакажу, хто я такі! Ты ў мяне ня тое што на бабу, на голую курыцу ўскочыць ня здужаеш!..

— Вой, мы паедзем! Толькі адпусьціце яго! — замалілася перад ім дзяўчына.

— Ды трэба мне такое гаўно! — штурхнуў ад сябе хлапца кіроўца, моцна націскаючы яму на карак. — Ну й гаўно... —ужо глыбакадумна-разважыста дадаў ён.

— Паедзем... Паедзем... — усё прыгаворвала маладзіца, ніяк не трапляючы нагамі ў спаднічку. Вось нарэшце патрапіла, дрыжачымі рукамі зашпіліла гузікі на блузачцы, схапілася рукою за плячо свайго зьбялелага каханка ды ў поўнай зьніякавеласьці замёрла, пакуль раззлаваны кіроўца ня ўскочыў назад у кабіну ды ня бразнулі дзьверцы, рэзка расчыняючыся перад імі. Хлопец, так і не апрануўшыся як сьлед, палаўся ў аўтобус першым, працягнуў руку сваёй спадарожніцы, і яна сьледам за ім нясьмела ступіла на прыступку.

Дзьверцы балюча ўдарылі па дзявочых плячах, і жытняе

*Працяг на старонцы 14*

**Adam Hlobus**

# ŚNIEH I PIASOK

HAJKU

***

Čužaja poŭnia
nad zaśniežanym parkam
siahońnia źziaje.

*02.12.1998*

***

Ślady na śniezie
ad dziciačych abcasaŭ...
Nie suciašajuć.

*04.12.1998*

***

Praz ranišni park,
uzdoŭž zamierzłaj rečki
idu pa śniezie.

*05.12.1998*

***

Idu z marozu
u kitajski restaran
pa čarku viski.

*06.12.1998*



***

Bierah Śvisłačy.
Śnieh syplecca ŭ cišyni
na vadu j piasok.

*06.12.1998*

***

Na brudnym śniezie
jarkija kropli kryvi
dziaŭbie varona.

*13.12.1998*

***

Zamierzła rečka.
Jość spakusa: naprastki
kiravacca damoŭ.

*10.12.1998*



Здымак Алены Адамчык

# ШРЫФТЫ

**У інстытуце па шрыфтах (была ў нас і такая дысцыпліна) я меў выдатныя адзнакі. Толькі магістрам шрыфтавых кампазыцыяў ня быў. Так, нешта ліха-хутка накрэмзаць вялізнымі літарамі мог, а сядзець і выточваць розныя там засечкі адраджэнскіх альфабэтаў... Прабачце. Кампутар, дзякуй Прагрэсу, зжыў са сьвету шрыфтавікоў, што бралі навуку каліграфіі дупай. А вось майстры графіцы жывуць і квітнеюць. Вядома, здараюцца й казусы. За надпіс на прыбіральні можна апынуцца за кратамі, што сьведчыць пра актуальнасьць і патрэбнасьць аналізу шрыфтавых твораў і іх месца ў жыцьці нацыі. Толькі сьляпы ня бачыць неабходнасьці пераходу на лацінскі шрыфт. І ўяві сабе, як будзе крыўдна беларусу, калі на чалавечы шрыфт раней за нас пяройдзе расіянін? Жах. Мы тут па судах за мяккія знакі ходзім. Нацыянальны сход толькі рыхтуецца разабрацца ў праблемах правапісу. А тым часам, у Расеі пачаўся працэс пераходу на лацінскі шрыфт. Працэс ідзе марудна, але йдзе. Японцы (зазірні ў Інтэрнэт) спакойна пішуць лацінскім шрыфтам. Вялікае, як той (не, ня той, на каго ўсе пальцам паказваюць, а разумны) казаў, пачынаецца з малога. Таму з гэтага дня буду занатоўваць свае Најku выключна лацінкаю.**

Адам Глёбус

# АЎТОБУС КОЛЕРУ БЭЗ

*Працяг са старонкі 13*

поле ў кроплях сініх валошкаў апошні раз праплыло перад іхнымі вачыма.

Зграйка сівенькіх бабулек у белых хустачках нясьпешна дыбала па дарозе да могілак. На тое, што позаду іх натужна раве нейкі лабіты ПАЗічак, яны сьпярша зусім не зьвярнулі ўвагі. Але вось пыл з-пад колаў закурэўся зусім блізка, аўтобус пад'ехаў амаль што ўсутыч да іхных сьпінаў, і бабулькі перапалохана зьбіліся на ўзбочыну. Аўтобус рэзка збавіў абароты, зьяжджаючы сьледам за бабулькамі на край дарогі. Тыя пачалі ашаломхана крычаць, махаць рукамі кіроўцу, яшчэ болей цясьніцца на ўзбочыну. Толькі кіроўца, каменны твар якога ўжо можна было выразна разгледзець скрозь лабавое шкло, упарта цісную на газ. Тады бабулькі пабеглі.

Галосячы, дробна перабіраючы старымі, нядужымі нагамі, яны беглі па краі дарогі, задыхаючыся ды ледзь ня падаючы. Усяго некалькі крокаў заставалася ім дабегчы да могілак, як раптам адна старэнькая жанчына спатыкнулася, нязграбна падвярнула нагу, засталася ззаду, і астатнія ў тую ж хвілю пачулі глухі, тупы ўдар, нібы хтосьці скінуў з гарышча проста на падлогу мех з бульбаю. Ужо толькі хрыпучы й давячыся сухім, калючым паветрам, яны ўбеглі за агароджу могілак, спрабуючы хоць як уратавацца, хоць як схавацца за крыжы ды магілы. Аўтобус, няспынна сыгналячы, заехаў адразу за імі ды з агідным мэталёвым скрыгатам напароўся адразу на некалькі помнікаў. Паваліліся крыжы, пырснула дробным шклом фара. З вылузанымі вачыма кіроўца выскачыў з кабіны, няўцямна зірнуў на фару, а потым — ужо асатанела — на бабулек у белых хусьцінках:

— Харэ бегаць, каргаўё кульгавае!..

— Што ты?.. Што ты?.. Ты ж нас... Зусім... — усё не маглі аддыхацца й нават не маглі гаварыць тыя.

— Бегаць, кажу, харэ, мумымры каргаючыя! Давайце ў аўтобус хутка.

— Куды?.. Ты што?.. Ты ж падавіў нас! Вуляначку насьмерць пераехаў!

— Я вам пераеду! Вы ў мяне, скульлё недарэзанае, паезьдзіце! Я з-за вас, лярвоты, фару раскірдзячыў! У аўтобус, каму сказана!!! — аж да пазногцяў страшна зьбялеў кіроўца.

— Вой, Вуляначку!.. — як ня чуючы, усё ж перакрыла ягоны рык сваім галашэньнем найболей сухацелая бабусечка. — І за што?!

— За злоснае супраціўленьне падчас арыштаваньня, вось за што, старакірыцы!

— Якога... арышт... — як рыба, заплямкала ротам тая, што галасіла.

— Такога! Арышт і ёсьць арышт! І супраціўляцца бесспалезна. У аўтобус, маць вашу, колькі раз паўтараць, — як і раней, з раптоўнай бясконцай стомаю ў голасе прамовіў, амаль што ня гледзячы на бабусек, кіроўца.

І бабулькі, выціраючы ражочкамі белых хусьцінак запалыя навек вочы, склаўшы сухою папераю плечы, так нічога й не зразумеўшы, скорана палезьлі ў аўтобус.

У мястэчку, куды праз паўгадзіны заехаў аўтобус, было ціха. Толькі ў дзіцячым садку, што жывапісна мясьціўся сваімі невялічкімі дамкамі-вежкамі на ўскраіне, ажыўлена раўлі-галёкалі маляты ды квахтушкаю тупала вакол іх таўсматая выхавацелька. Лёгкая брама, звараная зь перавітага дроту, была адчынена, і аўтобус як ехаў, так і стаў ужо на тэрыторыі пясочна-арэлевых уладаньняў. Кіроўца, пакуль не вылазячы, крыху апусьціў шкло, і ягоны абгрызены палец замёр у немінучым скіраваньні на выхавацельку:

— Усе, хто ёсьць! Давайце!..

— Што... давайце?.. — бы ў поўнай дурнаваласьці, спытала тая.

— Давайце, давайце. На вас у мяне таксама... Так што паедзем.

— Куды паедзем? Хто? Я?.. — жанчына раптам села ў пясок. Зьнянацку яна азадкам зачапіла нейкага сапельчыка, які страшэнна зароў. — Ціха, ціха... — ня гледзячы на сапельчыка, пачала яго супакойваць выхавацелька.

— І ты. І кіндэрбобікі твае. І ўсе, — відаць, кіроўцу ўжо сьмяртэльна надакучылі гэтыя ўсе тлумачэньні-аб'ясьненьні, таму што нават кукурузную палачку, якую ён знайшоў у сябе на сядзеньні, ён жаваў неахвоць, лянотна, абы разжаваць.

— Ды што... Ды як вы можаце?! А бацькі?.. А... Не, нікуды мы не паедзем! — ужо стаяла на цьвёрдых нагах таўсматуха.

— І бацькі, — як ня чуў трохі злоснае катэгарычнасьці ў апошніх сейных словах кіроўца. — Усе паедуць.

— А я!.. — пачала была выхавацелька, ды раптам кіроўца з агаломшаным спрытам выскачыў са сваёй кабіны, бы той ушчэнт згаладнелы клешч, учапіўся растапыранымі пальцамі жанчыне ў шырокія цыцкі ды пацягнуў-павалок, адыходзячы задам, яе да аўтобусу:

— А ты.. Ты... — толькі пеніліся па краёх ягоныя пасінелыя вусны. Вось нейкае да немагчымасьці брыдкае слова зьляцела зь іх, хвостка пляснула выхавацельцы па твары, які ўвесь пайшоў плямнотнаю чырванью. — Арыштава-

## Tadej Karabovič

Tadej Karabovič

***

roznyja padziei
z malenstva
atrymoŭvajuć sens

dla mianie
što staju za ścianoju ŭspaminaŭ

štorazu ciažej
pryhadać
roznyja padzici

***

ja pajšoŭ paśviacić jabłyki
na Spasa
a viarnuŭsia darosłym
i ŭspamin pakaciŭsia ŭ daśpieły vierasień
u maŭčańnie

PAETKA NADZIEJA ARTYMOVIČ DASYŁAJE Z PADLAŠŠA SVOJ ZBORNIK VIERŠAŬ «DŹVIERY» 1994 H.

paetka Nadzieja Artymovič
dasyłaje svoj zbornik «Dźviery»

dzie abbersanyja metafary
pierabłytvajucca z adzinotaj

dzie što ni radok
to ikona abo styhmat
pakutaŭ Haspodnich

Bielsk u jakim
žyvie paetka
załacicca sklapieńniami zhadak
praŭdzivaści
ŭ vieršach

ŚVIATYJA ŬŁADZIMIERA NAŬMIUKA

(EKSLIBRYS)

viartajucca nazad
a Narva
pływie
i ryba bjecca ŭ žakach

viartajucca z proščy
a ryba ŭ Narvie
ŭ þakach

SPAS U KITAJHORADZIE

la carkvy natoŭp jabłyk
dy hruš u kašach
pachnie ładanam

iduć jabłyki z Chrosnym chodam
idzie jabłyčny Spas
ź ikonaj Pieramianieńnia
papiarod

**Pierakłaŭ z ukrainskaj Andrej Dyńko**

Tadej Karabovič — paet, pierakładčyk, aktyvist ukrainskaha ruchu ŭ Polščy, aŭtar šaści paetyčnych zbornikaŭ. Pierakładaŭ ź biełaruskaj vieršy Nadziei Artymovič. Jaho apošniaja kniha nazyvajecca «Što staju za ścianoju ŭspaminaŭ».

Tadej Karabovič vykładaje na katedry ŭkrainskaj filalohii ŭva ŭniversytecie imia Skłodowskoj-Curie ŭ Lublinie, ale žyvie na Chołmščynie ŭ maleńkaj viosačcy Hola. Zasnavaŭ tam skansen: staryja viatrak, kłunia, chata pobač z draŭlanaj cerkaŭkaj, što stuliłasia za staravičnym kamiennym parkanam, zvańnicaj. Chacia Chołmščyna — daŭniaja ŭkrainskaja ziamla (u Chałmie pachavany Daniła Halicki, naradziŭsia pieršy prezydent UNR Hrušeŭski), ciapier ukraincaŭ tut vobmal: ich departavali ŭ 1947 hodzie padčas «Akcyji «Visła», finalnaha aktu kryvavaj polska-ŭkrainskaj vajny, jakuju pryniata datavać 1942-44 hadami, ale jakaja nasamreč ciahnułasia daŭžej.

Tadej Karbovič i sam padobny da svaich vieršaŭ — prazrysty j volny. Žyvie ŭ vioscy, jeździć na pracu ŭ Lublin za 50 km. Adradziŭ carkvu, stvaryŭ skansen, robić šmat dla polska-ukrainskaha dyjalohu. Nie are, nia sieje, nia chodzić z kasoju — pracuje pa-inšamu.

Dziŭna, jakich ludziej možna sustreć u Polščy. I dzie! U Sejnach žyvie Krzysztof Czyżewski. U hetym miastečku z 5000 žycharoŭ vydajecca try taŭščeznyja kulturnyja časopisy. U Krynkach na miažy — Sakrat Janovič, adzin z najmahutniejšych biełaruskich rozumaŭ. U Valiłach Lonik Tarasevič trymaje svoj park ekzatyčnych ptušak. A ŭ malupasieńkaj Holi — Tadej Karabovič. Dumajuć, dziejuć, tvorać. Ščaślivaja kraina, dzie stolki vialikaha ŭ małym. I dziŭna nam, u Biełarusi, dzie, zdajecca, adrazu za bramami Miensku pačynajecca kraj działak, kuraŭ, kosaŭ i ŭsieahulnaha viartańnia da pryrody, dzie z intelektualnaj pracy možna žyć tolki ŭ stalicy, a litarataru, što apynuŭsia pad Słonimam, prosta musova trymać karovu, dzie apalohija sialanskaj pracy ličycca abaviazkovym atrybutam pasłańnia, jakoje maje prynosić mastak. Ale jość u nas, jak u inšych, skały: Nina Maciaš u Biełaazziersku, Aleś Puškin u Babry na vulicy Hornaj... Niemahčyma nie lubić Polščy, dzie takich skałaŭ — śviet.

Tadej Karabovič piša pra Chołmščynu, svoj kraj na krai Polščy, piša biez vysokich stylaŭ, pałkich zaklikaŭ i štučnych rytmaŭ, volnym vieršam, jasnym słovam, samadastatkova skupymi vobrazami. Vioski: «Spas u Kitajhoradzie», «Chvysiŭka», Busły ŭ Turovym»; vodary: «Pach miaty», «Pach hryboŭ», «...sałodkija jabłyki poźnija»; ekslibrysy: «Chołmski ekslibrys», «Paetka Nadzieja Artymovič», «Ekslibrys Czesławu Miłoszu»; uspaminy, malitvy, načnyja zapisy. Tak moža pisać kožny — u hetych słovach vialikaja počaść — tak moža žyć kožny.

**A.D.**

ная ты, скукожына! Ясна табе?!

— Дзеці... дзеці... — міжволі паддавалася яна кіроўцу. —Толькі ня плачце... У аўтобус... Дзядзя памыліўся... Ня бойцеся. Мы паедзем і прыедзем... А дахаты... я сама... вас... потым... Толькі ж ня плачце!

І толькі выхавацелька паўтарыла пра плач, як дзеці зараўлі. Засмаркаліся, заенчылі, заверашчалі. Яны плакалі, яны насамрэч баяліся гэтага худажэзнага дзядзю, які цягне іхную Ганну Халімонаўну ў нейкі страшны бэзавы аўтобус ды яшчэ хоча, каб і ўсе яны лезьлі туды таксама.

— А-а!.. Сьціхніце, каб вам заляпіла! — ужо разьдзіраўся крыкам кіроўца. Ужо жахліва раскрытыя вочы Ганны Халімонаўны спачатку ўпляжыліся знутры ў аўтобуснае вакно, потым мітусьліва падаліся да выхаду, ужо кідаў кіроўца парамі, а то й па трох-чатырох у аўтобус саплівае, памурзанае падшываньне, і ўжо падалі, валіліся адзін на аднаго пераляканыя сапліўцы ў духотным, нажараным сонцам за дзень салёне. Дзяцей як магла лавіла ды супакойвала ўпацелая выхавацелька, ёй крыху дапамагалі ранейшыя арыштанты, неахвотна ўсаджвалі на вольныя месцы. Праўда, адна бабулька пачала хутка-хутка маліцца за кожнага, у кожнага спрабуючы запытацца імечка, але мала хто зь перамакрэлых малятаў да яе азываўся...

А матор заходзіўся гудам-скрыгатам, бэзавы аўтобус калаціўся ды ляскацеў, кіроўца лаяўся, дзеці раўлі, не сьціхаючы. Вось працяты мэталёваю трасучкаю ПАЗік тузануўся, крануўся ды, ушчэнт распляжыўшы акуратнenькую пясочніцу з жоўтым жвірочкам, рэзка выпер зь сіротнага апусьцелага садку.

Да самае цёмнае начы ладаваў кіроўца арыштантамі свой аўтобус. Падазронага электрыка ён зьдзер проста з тэлеграфнага слупа разам з «кошкамі» ды ланцугамі, дзьве цётухны нейкае халеры стаялі от так сабе пры дарозе ды немаведама пра што балабонілі, нейкі сівізны дзядзька бартаваў побач са сваім «Запарожчыкам» прабітае кола, на хутары, дзе нармальнаму чалавеку й жыць немагчыма, сям'іска, па ўсім відаць, добрых куркулёў, перабірала бульбу, непадалёк ад хутару, таксама пры дарозе, адна лядачая кабетухна прадавала зь вядра яблыкі-пепенкі, узбоч лесу сухаплюжны татка, таўсмужная мамка ды дзьве цыбатыя дзевачкі-пераростачкі шуравалі з грыбоў, перакрыўлены дзед з кульбачкаю пераганяў цераз дарогу статак каровак, якія пачалі рыкаць па-дурному, калі кіроўца застаўбурыў дзядка ў аўтобус, на пустэльнай АЗС касырка-запраўшчыца ніяк не магла даўмецца, як жа гэта так яна ўсё кіне без нагляду-прызору ды некуды паедзе ды, магчыма, ужо й ня вернецца (?!), вясковы паштар проста бразнуўся з ровару, ашаломханы загадным крыкам кіроўцы спыніцца, «Паскудрыла бзьдзючы, стой, каб ты здох!», ды так з роварам і хацеў перціся ў ПАЗік, але, страціўшы зьнянацку пярэднія два зубы, свой ровар з крываточным жалем пакінуў у прыдарожнай траве-мураве, буракапольная брыгада спачатку нават не азірнулася на ўсё тыя ж скульлёрвучыя зыкі кіроўцы, аднак яны яшчэ ня ведалі, ого, яшчэ ня ведалі, з кім маюць справу, і справу не абы-якую, і што жартамі тут... нават і блізка..., у маленькім гарадочку адзін дужа акулярысты разумнік з выглядам закалотнага заўзятара чытаў на лаве, а болей, паскуда, рабіў выгляд, што чытае газэту, а ў кавярнячцы, у якую кіроўца ўпароўся-заехаў от так проста аўтобусам, тры млявыя ахвіцыянтачкі спрабавалі нават ад яго адкупіцца скрыняю перабрадзілага піва...

Ай, ды ўсіх і не пералічыш. Людзей у ПАЗ было ўжо напіхана столькі, што было чуваць, як хрумсьцяць нечыя костачкі, нехта дзіка крычаў, той-сёй зь дзетак яшчэ вішчаў, але большасьць, зачаўленая з усіх бакоў дзядзькамі ды цёткамі, ужо нават і не дапінала ні да воднага ўздышку. Твары, перакрыўленыя, раскірплюханыя твары былі прыціснутыя да вокнаў, і вочы шмат у каго вылузваліся проста прэч...

Кіроўца ахрып ад крыку, ягоная лаянка рабілася ўсё болей жорсткаю, у набіты бітма аўтобус ён запіхваў арыштантнаў плячом, усё часьцей падштурхоўваючы каленам, усім целам навальваючыся на дзьверцы...

А між тым, паволі цямнела...

***

Вялізны горад наперадзе паказаўся зусім нечакана.

Адзіная ацалелая фара аўтобусу кінжалам прарэзала наваколле. Высачэзныя гмахі выраслі зь цемры, нібыта начныя, шэрыя прывіды. І тут кіроўца, нешта заўважыўшы, задаволена пацягнуўся ў бардачок ды, крыху там памацаўшы, дастаў новы, нераспакаваны пачак кукурузных палачак. Не адрываючы вачэй ад таго, што прасьціралася перад ім наперадзе ды па баках, ён пачаў разрываць пачак, прыціскаючы яго адною рукою да рулявога кола.

Паўсюль, ля кожнага дому, ля кожнага пад'езда, у кожным двары стаялі людзі. Людзі стаялі паўсюль, куды толькі магло дастаць вока. Начны ветрык зьлёгку калыхаў іхныя белыя строі. Усе маўчалі. І кожны зь іх у маўчаньні чакаў... свае чаргі... каб ехаць і ехаць... ехаць і ехаць... ехаць і ехаць... скрозь цёмную ноч... у аўтобусе колеру бэз.

Кастрычнік, 1998 г.
м. Кобрынь

